Раман Данілюк ➔3



Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

Пра Купалу ➔ 8



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 25 (2927) Год LVII Беласток, 17 чэрвеня 2012 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

# Патока гарэла ўсю ноч

— Косця пятнаццаць гадоў хадзіў, дабіваўся гэтай каплічкі, — кажа Віталь Раманчук пра сябру з суседніх Подварак, былога вайскоўца **Кастуся Масальскага**. — І вельмі ўдзячны ўсім, хто спрычыніўся да гэтай справы. Кажуць, час лечыць раны. Гэта не так. Мінула больш за паўвеку, а я не магу забыцца. Перад вачыма стаіць наш панадворак, дрэвы, якія раслі да пажару. Усё гэта ажывае, цісне ў грудзях. Думаю пра маму, якая ратавала нас з братам ад агню і ад голаду...

На камені ў сэрцы каплічкі надпіс: *Ахвярам Другой сусветнай вайны, пакутнікам за веру, нацыянальнасць, грамадзян, якія загінулі ў 1939-1956 гадах.* Разам пералічаны спацыфікаваныя вёскі: *Канцавізна, Папоўка, Патока, Райск, Сыпні, Шпакі, Вулька-Выганоўская, Залешаны, Зані...* ды іншыя. Каплічка густоўна пераклікаецца са Свята-Духаўскай царквой. Праектаваў яе той самы славуты архітэктар Ян Кабац. 3 чэрвеня, у другі дзень Тройцы, калі ў парафіі прыхадское свята, аб'ект асвяцілі саноўнікі Царквы: епіскап беластоцка-гданьскі Якуб і епіскап супрасльскі Рыгор. З сем'ямі ўшанаваных ахвяр маліліся тысячы прыхаджан, прадстаўнікі мясцовых удад і палітыкі, беларускія дыпламаты, у тым ліку вельмі заслужаны для справы былы генконсул Міхал Аляксейчык, і старшыня БГКТ Ян Сычэўскі. У моры народу я прыкмеціла Віталя Раманчука, відавочцу пацыфікацыі вёскі Патокі, што ў Міхалоўскай гміне. 22 мая 1945 года Патоку спаліў атрад Зыгмунта Шындзеляжа „Лупашкі".

* * *

— У народзе кажуць, што калі ўпадзе крыж з царквы, гэта знак, што згіне сяло, — кажа Віталь Раманчук, настаўнік-пенсіянер з Беластока. Сустракаемся некалькі дзён да асвячэння каплічкі ў яго доме. У хатнім архіве рэдкі здымак з трыццатых гадоў мінулага стагоддзя. На ім школьнікі і настаўнік школы ў Патоцы. Ззаду мураваны будынак Свята-Юр'еўскай царквы, ужо без даху і крыжа. Верх быў пашкоджаны ў час Першай сусветнай вайны. З боку царкоўных мяроў — фрагмент школьнага будынка. Да бежанства існаваў тут комплекс школ, у тым ліку духоўная семінарыя і сярэдняя свецкая школа.

— Я яшчэ памятаю як у 1939 годзе саветы намерыліся раскідаць царкву, — успамінае спадар Раманчук. — Яны пашарпалі і не далі рады. Царкву канчаткова ўзарвалі немцы, якім не падабалася руіна. Намаўлялі людзей, каб бралі цэглу, але не было зашмат ахвотных. Вёскі яны не пашкодзілі, толькі з краю сяла стаялі дзве надгарэлыя хаты, якія запаліліся ад перастрэлкі.

Да пацыфікацыі Патока была адной з самых вялікіх праваслаўных вёсак у наваколлі Міхалова. Тут знаходзілася прыблізна сто сядзіб, дзе, як падлічыў гісторык Лешак Нос, жыло аж дзвесце сорак сем'яў.

— На многіх панадворках жыло па дзве або і больш сем'яў, — удакладняе Віталь Раманчук, народжаны ў 1934 годзе. У час нямецкай акупацыі пайшоў у беларускую школу, якая працавала ў іх вёсцы. З тых часоў у памяці застраг адзін успамін: як солтыс хадзіў з немцам па хлявах і перапісвалі свіней і курэй... Немец спытаў дзе іх бацька. Калі пачуў, што няма яго ў жывых, ён узяў спісак і скрэсліў памечаныя ім два свінчукі. Ім пашчасціла гадаваць яшчэ трэцяга свінчука ў адмысловай скрытцы. Пасля мелі і грошы, і сала на пяць пальцаў...



— А хто вучыў вас у беларускай школе? — пытаю ў спадара Раманчука.

— Гэта былі Семянчук і Самойлік з нашай вёскі. Той Семянчук быў солтысам, таму яго часта заступаў той другі настаўнік.

* * *

Восенню 1944 года прыбылі ў Патоку салдаты і асталіся ў ёй да вясны 1945 года. Войска збірала кантынгент. У вёсцы жыло пяць-шэсць салдат, якія абслугоўвалі кантынгенты з Патокі і Тапалян. Яны зжыліся з вяскоўцамі, хадзілі разам на забавы, падчаплялі мясцовых дзяўчат.

— Сярод іх быў адзін праўдзівы паляк з Радама, — кажа мой субяседнік, — апошнія былі з нашага старонння, такія „пярэхрысты"...

16 мая 1945 года ў Патоку заехала грузавая машына з салдатамі і афіцэрам.

— У гэты дзень я баранаваў поле ў Кананчука. Я адрабляў яму за дапамогу, бо ў нас не было каня. Бацька памёр ад запалення страўнікавай залозы чатыры гады да вайны. Я як мог дапамагаў маме ў гаспадарцы, бо брат быў на два гады малодшы. Пасля работы Кананчук паклікаў да сябе на абед. Каля стадолы сустрэў я солтыса Дамброўскага, які выслаў мяне на вёску пабачыць, што там адбылося. А сам пазагародзем направіўся дзесьці ў поле. Тое, што я там пабачыў, праследавала многія гады. Ля плота сядзелі мёртвыя Малахі (Малашэўскія — Г. К.), з чэрапа выставалі косці. Непадалёк ляжала цела афіцэра, які прыехаў па кантынгент. Аказваецца, у той час, калі прыехалі па кантынгент, з лесу прыйшла банда, чалавек пад сорак. Спачатку яны ішлі вуліцай, а пасля сталі хадзіць па панадворках, загароддзем. Іх прыкмеціў афіцэр і загадаў сваім людзям страляць. Перастрэлка цягнулася трыццаць хвілін. З боку Геранімова прыйшлі яшчэ іншыя „салдаты" — лясныя. Яны загадалі праз мегафон спыніць перастрэлку. Салдаты, што прыехалі па кантынгент, перабеглі на іх бок, пакінуўшы свайго старшыню. У яго не хапіла патронаў і, калі афіцэр бег да машыны, яго застрэлілі. Пасля банда схадзіла ў дом братоў Яна і Уладзіслава Малашэўскіх. Іх вывелі з хаты і пагналі вуліцай нейкія сто метраў. Пасля іх жорстка збілі, пасадзілі пад плот і застрэлілі. Забілі таксама Яна Бэкіша. Яго труп ляжаў на панадворку ля калодзежа. Усё гэта праз акно бачыў яго 17-гадовы сын, які вярнуўся з поля і лёг адпачыць. Банда ўварвалася ў хату і забіла хлапца.

Зрабіўшы сваю справу, карнікі селі ў машыну і ад'ехалі ў бок Геранімова. На наступны дзень у тую вёску, дзе хаваліся лясныя, з'явілася міліцыя і войска з Беластока і зрабіла ператрус. За гэтыператрус банда адпомсціла сем дзён пазней.

* * *

22 мая, у паабедні час у вёску з'явіўся атрад лясных, чалавек сто. Яны сагналі з вёскі мужчын і павялі іх у канец, дзе дарога на Геранімова. Мужчын паклалі на зямлю і адчыталі ім прыгавор. І падпалілі ракетай вёску.

— Гэты прыгавор, казалі, згарэў пасля ў агні, — кажа Віталь Раманчук. — Людзі так і не ведалі за што іх канкрэтна пакаралі.

Калі загарэлася іх хата і хлявы, Віталь Раманчук кінуўся выганяць кароў з хлява. Маці выносіла нешта з хаты. Хлапчуку ўдалося вывесці з агню кароў. Але авечкі не хацелі ісці на двор. Яны, што ні рабіў, вярталіся ў заняты агнём хлеў. Віталь не заўважыў як сам пачаў гарэць. Добра, што на ратунак паспяшыла маці. Яна выцягнула хлапца з агню, палячы сабе рукі. Жах гэтай хвіліны яшчэ сёння наклікае слёзы ў вачах майго расказчыка. Памятае, як усю ноч праляжаў з маці і братам у баразне ў агародзе. Запалоханых і апаленых агнём раніцай знайшлі іх сваякі з Тапалян і забралі да сябе ў хату. Там пражылі паўтара года, пакуль не пабудавалі свайго свіронка і на наступную зіму вярнуліся ў родны куток.

Патока гарэла ўсю ноч, а пах пажарышча трымаўся там яшчэ пяць гадоў. У пажары загінула трое дзяцей Марыі і Юліяна Герасімчыкаў. Сям'я Віталя Раманчука ніколі не атрымала кампенсацыі за нанесеныя шкоды.

— Я быў малы і гэтага да канца не разумеў. Але вельмі шкада мне мамы, якая рабіла ўсё, каб мы не былі голыя і галодныя. Спачатку яна не магла працаваць з абгарэлымі рукамі. Не было граша, каб купіць хоць бы бінты. Яна ратавалася як магла, мазала рукі гусіным тлушчам, акрувчала іх лісцем. Бог не даў нам прапасці, дапамог. Мы з братам здабылі прафесіі, усталяваліся ў Беластоку, нажылі сем'і. Цяпер са сваёй Оляй ездзім на паломніцтвы. А вы былі на Салаўках? Варта паехаць, столькі цікавага...

Трагедыя ў маі 1945 года яшчэ больш замацавала сувязі Віталя Раманчука з Патокай.

— Каб быў малодшы дык вярнуўся б на сваё месца ў вёску, адбудаваў. Цяпер там адзінаццаць двароў. Пераважна старыя. А мы з адным сябрам хочам увекавечыць месца, дзе стаяла наша царква св. Юр'я. Каб Бог дапамог нам знайсці тыя крыжы, што скінулі з царквы.





# Бальшавікі і меншасць

Бальшавікоў я неўзлюбіў яшчэ служачы ў савецкім войску. І не столькі з-за таго, што двухгадовая служба ў гэтай арміі была сапраўдным тэатрам абсурду, а першым чынам дзякуючы публікацыям у надзвычай папулярным ва ўсім Савецкім Саюзе часопісе „Огонёк". Гэта быў 1986 год, мы чыталі ў ім вершы Мікалая Гумілёва, Восіпа Мандэльштама, Мікалая Клюева, іншых паэтаў, а таксама іх біяграфіі. Уражвала, што гэтых і многіх іншых таленавітых людзей забівалі, расстрэльвалі па сутнасці за літаратурную дзейнасць, паслядоўна знішчалі фізічна. Паралельна раскрывалася многа праўды пра Леніна і сутнасць створанай ім бальшавіцкай сістэмы. Ужо пасля войска з'явіліся публікацыі і праўда пра тое, якія злачынствы здзяйснялі бальшавікі на беларускіх землях. Як знішчалі цвет нашай інтэлігенцыі, як нават у асобныя канкрэтныя дні дзесяткамі расстрэльвалі прадстаўнікоў культурнай эліты, „раскулачвалі", высылалі і забівалі найлепшых гаспадароў — звычайных сялян, людзей, усё „злачынства" якіх было толькі ў тым, што яны ўмелі працаваць і мелі маёмасць.

Днямі паглядзеў я гутарку з вядомым рэжысёрам Уладзімірам Борткам. Некалі ён зняў геніяльны фільм „Сабачае сэрца" па аднайменным рамане Міхаіла Булгакава. Сутнасць бальшавізму і дыктатуры пралетарыяту ў гэтых двух творах выяўлена проста вычарпальна. Яна выражаецца просценькай формулай, выказанай героем Шарыкавым: „Забраць і падзяліць усё пароўну". На справе гэта азначала адно — забраць у людзей напрацаванае, забраць усё дарэшты, пакінуць іх без права на выжыванне. Бальшавікамі-саветамі быў прыдуманы і далейшы алгарытм дзеянняў: „Калі вораг не здаецца — яго знішчаюць". СССР быў сапраўднай імперыяй зла, лепшага азначэння і не прыдумаеш. Тое, што гэтая пачварная сістэма развалілася, было вялікім гістарычным шчасцем для цэлага шэрагу народаў. Але бальшавізм не знік, ён прытаіўся, мімікраваў і зноў паспяхова адраджаецца — у Беларусі, Расіі, Украіне. Ён вярнуўся не толькі ў ранейшай сутнасці і абноўленым абліччы, але і пад старой сімволікай. Гэта ўсведамляецца асабліва востра, калі бачыш чырвоныя сцягі, дзецюкоў не толькі дэбільнага, але і звычайнага выгляду ў кашульках з надпісам „СССР" на вуліцах. Гэта пад гэтымі сцягамі, гэта імем СССР знішчалі маральна і фізічна дзесяткі тысяч, соткі тысяч, мільёны людзей...

Нейкім неверагодным чынам здарылася так, што ніхто з маіх блізкіх і больш далёкіх продкаў не падпаў пад сталінскія рэпрэсіі. Ніхто, дзякуй Богу, і не служыў у савецкіх органах „правапарадку". Але як можа не кранаць тое, што было і тое, што адбываецца зараз, усіх нас?! Я ніколі не зразумею тых людзей, якія аддаюць сваіх дзяцей у „акцябраты", тых, якія вывешваюць і носяць гэтыя чырвоныя сцягі, тых, якія гавораць — „гэта ж наша гісторыя, яе трэба шанаваць". Яны не ўсведамляюць, і не хочуць усведамляць, што бальшавікі прыходзяць толькі з адной мэтай — знішчаць, рабаваць і забіваць. Формы могуць быць розныя, а сутнасць нязменная. Самае парадаксальнае, што заўсёды гэтыя бальшавікі насамрэч у меншасці, але варта ім на нейкім этапе апынуцца зверху, пры ўладзе, як пачынаюцца характэрныя працэсы. Бальшавікам важна стварыць паслухмяную масу, запалохаць, ачмурыць сваёй хлуслівай прапагандай, прымусіць пэўну працэнту людзей служыць ім, выконваць загады, няўхільна трымацца генеральнай лініі. І чалавек нават не заўважае, як прадае душу гэтым пярэваратням, становіцца часткай злачыннай сатанінскай сістэмы.

Чаго я згадаў гэтага маскоўскага рэжысёра з відавочным беларускім прозвішчам? З гэтым Борткам, які некалі зняў такі антыбальшавіцкі фільм, здарылася дзіўная метамарфоза. Зараз ён дэпутат расійскай Дзяржаўнай думы, адзін з актыўнейшых членаў камуністычнай партыі, прыхільнік Зюганава і Пуціна адначасна (зрэшты ў апошнім парадоксу няма: абое — рабое). Слухаць, што ён апантана і фанатычна казаў, было неймаверна цяжка: пра справядлівасць сацыялізму, пра тое, як бальшавікі прынеслі ў „народныя масы" адукацыю і культуру... Калі людзям так „адбівае" мазгі, то можа сапраўды надыходзяць апошнія часы...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Голас з катакомбаў

Лічбавую мову выдумалі кітайцы надоўга да эпохі камп'ютараў. Але і не яны бацькі гэта дзіву, хаця, аб чым трэба памятаць, раней вынайшлі паперу, компас і тысячы цудоўных ды прыдатных у жыцці рэчаў. Вось, напрыклад, такі кітайскі парасон, які ў Польшчы можна купіць адно за 5 злотых, які адразу — пасля таго як яго раскладзеш — псуецца. Пасля няцяжкай мадыфікацыі можа ён, аднак, добра прыслужыцца як дасканалая падпорка для памідорavага кусціка! Пералічу яшчэ адзін прыклад кітайскага генію — часнок. Кітайскі можна набыць у крамах за марную залатоўку, калі яго айчынны цёзка страшыць цаною. Іншая гэта справа, што здаравей пацалавацца з выхлапною трубой праязджаючай аўтафуры, чым з'есці найменшы зубок іхняга паскудства. Ну, дык няхай хтосьці паспрабуе пацалаваць трубу аўтафуры, ды якраз праязджаючай... Хутчэй купіць кітайскі часнок.

Вернемся, аднак, да мовы... Яшчэ да паловы XX стагоддзя кітайцам, размаўляючым на тысячах розных гаворак, адзіным спосабам паразумення быў знак, пісаны ў такі самы спосаб ва ўсёй краіне. Аднак кітайская арфаграфія налічвае некалькі тысяч знакаў. Прыгадаем, што беларуская мова абапіраецца на 32 знаках, а і так у Беларусі не ўмеюць дагаварыцца адны з аднымі. Дарэчы, так як і палякі. Апрача таго кітайская мова мае сотні слоў, якія вымаўляюцца аднолькава, а толькі танацыя голасу дазваляе з кантэксту дадумацца іхняга сэнсу. Такіх танацый аж 5. Напрыклад, слова „сі" ў трэцім тоне (ападаючым і ўздымаючымся) значыць „смерць", але „сі" ў чацвёртым тоне (ападаючым) значыць 4. Таму не здзіўляе тое, што ў кітайскіх бальніцах вельмі асцярожна кажуць пра „чацвёрты паверх". Каб пазбегчы непаразуменняў, пошты ў Кітаі мелі кніжкі кодаў. Змяшчаліся ў іх, падобна як у слоўніках, спіскі пару дзесяткаў тысяч знакаў з іх вымаўленнем. Нумараваліся яны ў чатырох лічбах. Першы знак — 0000, другі знак — 0001 і так ад жа 9999. Іерогліф азначаючы краіну меў, напрыклад, нумар 0948. Тэлеграмы, а нават афіцыйныя лісты высылалі ў выглядзе кодаў з чатырох лічбаў. Эх, як цікава гучалі б прамовы Аляксандра Лукашэнкі ўсхваляючыя беларускую краіну і яе справядлівы лад у лічбавай мове: 0023-0948-4796... А беларусы на гэта з энтузіязмам: 0000!

Урад Кітая пад выглядам пісьменнасці гутарковай мовы і спрашчэння яе маўлення заснаваў у 1954 годзе Камітэт па справе рэформы пісьменнасці. Гэты спрасціў усе знакі, накінуў новы спосаб чытання, ад левага боку да правага, як на Захадзе, ды апублікаваў спісак 1000 іерогліфаў палічаных няправільнымі. Які таго вынік? Маладыя людзі, адукаваныя ў рэфармаванай сістэме, не ўмелі ўжо адчытаць старых раманаў, узгадоўваючых нацыянальны дух кітайцаў. Такім чынам прапала традыцыя г.зв. травяністай пісьмовасці, аднаго з самых тонкіх стыляў кітайскай мовы, на якой быў напісаны вялікі кітайскі эпас „Сон чырвонага павільёна", забаронены камуністычным рэжымам. Тут дазволю сабе спытацца: ці беларусы ўмеюць яшчэ чытаць у арыгінале паэзію Янкі Купалы?

Прэзідэнт Беларусі вышэй роднай мовы і нават лічбавай кітайскай ставіць рускую мову. Гаворыць па-руску, піша па-руску і... думае па-руску. Невядома чаму ён прэзідэнт беларусаў, а не расіян. Праўда, руская мова прыгожая і не горшая чым нямецкая ці польская. Але ж англічанін гаворыць па-англійску, паляк па-польску, расіянін па-руску. А беларус?

Русіфікацыя беларускага народа выклікае трывогу. І, несумненна, паступае яна пры дазволе беларускіх улад. Пісаў я аб гэтым у папярэднім фельетоне. Усё ж Лукашэнка і яго відныя завушнікі крывадушна пярэчаць фактам. Як доказ клопату за родную мову кажуць пра прыклад мінскага метро, у якім дыктары аб'явы чытаюць па-беларуску. Метро, як паўсюдна вядома — падземная канструкцыя, штосьці ў выглядзе мадэрных катакомбаў. Голас Беларусі, што дастаецца з катакомбаў — сапраўды пранікальны голас!

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Законапраект напаказ



Ад паўтара года ў Польшчы абавязвае г.зв. роўнасны закон, які ў поўным гучанні атрымаў назву „аб ажыццяўленні некаторых правіл Еўрасаюза ў абсягу роўнай трактоўкі". Мае ён у прадпасылцы ажыццявіць некалькі еўрасаюзных дырэктыў, а затым прымяняецца ў абсягу прафесійнага абучэння, умоў ініцыявання або выконвання гаспадарчай або прафесійнай дзейнасці, арганізацый працадаўцаў ды прафесійных самаўрадаў, а таксама доступу і карыстання прыладамі і паслугамі рынку працы, грамадскага страхавання, аховы здароўя, асветы і вышэйшага школьніцтва, жыллёвых паслуг ды набывання правоў і энергіі, калі знаходзяцца яны ў публічнай прапанове. Прытым заканадаўца вызначыў у гэтым кантэксце паняцце пасрэднай і непасрэднай дыскрымінацыі. Як першая разумеецца „сітуацыя, у якой фізічная асоба па прычыне полу, расы, этнічнага і нацыянальнага паходжання, рэлігіі, веравызнання, светапогляду, інваліднасці, узросту ці сексуальнай арыентацыі трактуецца менш прыхільна чым ёсць, была або будзе трактавацца іншая асоба ў параўнальнай сітуацыі". У вызначэнні другога паняцця разумець трэба сітуацыю, у якой тыя пералічаныя асобы „ў выніку ілюзорна нейтральных паводзін, прыменнага крытэрыю або пачатага дзеяння выступаюць або маглі б выступіць некарысныя дыспрапорцыі або асабліва некарысная для іх сітуацыя". Тут асабліва загадкава дадзена: „... хіба што рашэнне, крытэрый або дзеянне аб'ектыўна абгрунтавана па прычыне мэты згоднай з законам, якая мае быць дасягнута, а сродкі служыўшыя дасягненню гэтай мэты з'яўляюцца адпаведнымі і неабходнымі".

Толькі ў апошні час, быццам бы пад уплывам шматлікіх сігналаў аб недасканаласцях палажэнняў законапраекта, а затым невялікай колькасці спраў трапляючых на яго аснове ў суды, заступнік грамадзянскіх правоў праф. Ірэна Ліповіч раскрытыкавала, што г.зв. роўнасны законапраект не гарантуе эфектыўнай абароны ад дыскрымінацыі. Гэтак напісала ўпаўнаважаная ўрада па справах роўнай трактоўкі. Заявіла: „Гэты законапраект прызнае юрыдычную абарону выключна ў вычарпальна пералічаных абшарах. Уводзіць апроч гэтага розныя ўзроўні аховы асоб, якія сталі ахвярай дыскрымінацыі. Асобы з інваліднасцю, асобы ЛГБТ (лесбіянкі, геі, бісексуальныя, трансвеститы — М. Х.) ды асобы якія скардзяцца на дыскрымінацыю па прычыне рэлігіі, веравызнання, светапогляду ці ўзросту стаяць па-за аховай у такіх сферах як адукацыя, доступ да тавараў і паслуг ці грамадская страхоўка. Законапраект не ахопліве аховай асоб дыскрымінаваных на прычыне полу ў абсягу ахвовы здароўя і адукацыі".

У сваю чаргу на думку праф. Евы Лантоўскай, суддзі Канстытуцыйнага трыбунала ў адстаўцы і былой заступніцы грамадзянскіх правоў, гэтага законапраекта не ўдасца прымяніць на практыцы. Лантоўская прыгадвае, што меў ён быць дапаўненнем некалькіх еўрасаюзных дырэктыў, ды рабілі гэта спешліва, паколькі ЕС падганяў:

— Вынік такі, што там, дзе дырэктыва загадвала краёваму заканадаўцу: зрабі так, каб дасягнуць мэту, то наш заканадаўца так не зрабіў, толькі перапісаў з дырэктывы: штосьці трэба зрабіць, каб дасягнуць мэту. Тым часам паказаць гэта ў законапраекце павінен якраз краёвы заканадаўца; павінен вызначыць, што трэба зрабіць, каб дасягнуць мэту вызначаную ў дырэктыве (цытата за: www.lex.pl — М. Х.).

Прафесар Лантоўская адзначае:

— Гэты законапраект стварае ілюзію рэгуляцыі і з'яўляецца прыкладам loi spectacle — закона-спектаклю, напаказ. Адным словам — паказухі. Таму не можам разлічваць на стварэнне стандарта рашэння.

Варта тут дадаць, на што звяртае ўвагу праф. Ліповіч, што на недастасаванне антыдыскрымінацыйнага правасуддзя ЕС да польскага правасуддзя ў гэтым абсягу значна ўплывае да сённяшняга нератыфікавання Польшчай Пратакол № 12 да Канвенцыі аб правах і асноўных свабодах чалавека ад 1950 года.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Размова з **Раманам Данілюком**, настаўнікам фізкультуры ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы, трэнерам школьных валейбольных каманд.

# Выдатны трэнер па валейболе

*— Нядаўна валейбольная каманда гайнаўскіх белліцэістаў, з якой Вы займаліся, заняла трэцяе месца ў спаборніцтвах за чэмпіянат Падляшскага ваяводства звышгімназічных школ, якія называюцца таксама ліцэаліядай. Ці складана было дабіцца гэтага пераможнага месца?*

— Спаборніцтвы па валейболе, арганізаваныя для звышгімназічных школ, адбываюцца ў 4 лігах і пераможцы з ніжэйшай лігі ў канцы школьнага сезона пераходзяць у вышэйшую лігу. Хлопцы з нашага белліцэя практычна цэлы час трымаюцца ў першай лізе. За апошнія 10 гадоў мы толькі адзін раз сышлі ў другую лігу, але адразу ў наступным сезоне перамаглі там і вярнуліся ў першую лігу. За гэтыя 10 гадоў нашыя белліцэісты два разы займалі першае месца ў Падляшскім ваяводстве, тры разы займалі трэцяе месца і тры разы пятае месца. Апрача мяне з вучнямі белліцэя, што дабіваліся гэтых поспехаў, займаліся Юры Янель і Цэзары Шыкула. Белгімназісты, з якімі я займаўся ў гэтым перыядзе, у 2007 годзе занялі другое месца ў гімназіядзе Падляшскага ваяводства, а дзяўчаты з белліцэя найвышэй ігралі толькі ў трэцяй лізе. Нашыя вучні прымаюць таксама ўдзел у клубных спаборніцтвах, што адбываюцца побач ліцэаліяды і гімназіяды. Да Вучнёўскага спартыўнага клуба, што дзейнічае пры Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мове належаць нашыя вучні і ў рамках гэтага клуба адбываюцца трэніроўкі. Вучні здабываюць вопыт у час спаборніцтваў, каб пасля выступаць у самым моцным складзе ад нашага белліцэя. На поспех у час ліцэаліяды складваецца праца ўсіх трэнераў, што займаліся з белгімназістамі і пасля з белліцэістамі. Да перамогі цяперашніх маіх белліцэістаў спрычыніліся таксама Цэзары Шыкула і Яраслаў Куцікаў, што вядзе Вучнёўскі спартыўны клуб «Алімпійчык» у Белавежы, дзе нашыя вучні таксама ігралі.

*— Ці трэцяе месца ў Падляшскім ваяводстве Вас задавальняе, ці можа разлічвалі на яшчэ вышэйшае месца?*

— Другое месца было б для нас найбольш справядлівым, бо на маю думку цяперашняя сістэма спаборніцтваў не была справядлівай. Мы выйгралі больш матчаў, чым каманда ліцэістаў з Аўгустова і два разы выйгралі ў час непасрэдных матчаў з аўгустоўскімі ліцэістамі, а пасля ўсіх падлікаў аказалася, што яны занялі другое месца, а мы — трэцяе. Што тычыцца першага месца, то вучні з Сельскагаспадарчай школы з Беластока заслужана перамаглі, бо з усімі выйгравалі. Фінал ліцэаліяды адбываецца ў настольскі дзіўны спосаб, што калі б нашая каманда спецыяльна здалася і прайграла ў фінальных змаганнях першы матч, то мела б большыя шанцы заняць другое месца, а трэцяе і так было ўжо гарантаванае. Але ж вучні не едуць на фінальныя матчы, каб свядома здавацца ў час першай гульні, дзеля лепшага агульнага выніку. Я маю намер выступіць да арганізатараў з прапановай змены спосабу правядзення ліцэаліяды.

*— Аднак сёлетні Ваш поспех і тыя на працягу апошніх дзесяці гадоў не самыя вялікія і адны з поспехаў, якіх Вы дабіліся з вучнямі ў час валейбольных спаборніцтваў на працягу Вашай звыш дваццацігадовай працы ў Гайнаўскім белліцэі і ў Гайнаўскай белгімназіі.*

— У 1998 годзе мае белліцэісты занялі першае месца ў Беластоцкім ваяводстве, а другое месца занялі ў нашым ваяводстве ў 2002 годзе. Мае белгімназісты занялі яшчэ другое месца, таксама ў 2002 годзе.



Валейбольная каманда гайнаўскіх белліцэістаў, якая ў гэтым годзе заняла трэцяе месца ў Падляшскім ваяводстве, з трэнерам Раманам Данілюком

*— Каб дабіцца поспехаў у валейболе напэўна трэба многа займацца з вучнямі і ўмела весці трэніроўкі.*

— Каб былі поспехі ў валейболе вельмі важная паслядоўнасць працы з вучнямі. Мы найчасцей пачынаем займацца з нашымі спартсменамі толькі ў гімназіі. Каб дабіцца вялікіх поспехаў найлепш распачынаць трэніроўкі з вучнямі ўжо ў падставовай школе і прадаўжаць ажно да ліцэя. Калі б вучні з Гайнаўкі дабіваліся большых поспехаў ужо ў падставовай школе, нам у белгімназіі і белліцэі лягчэй было б дабівацца поспехаў з такімі выпускнікамі падставовых школ. Вельмі важная таксама згода і дружнасць у камандзе, бо валейбол гэта калектыўная гульня і неабходная ангажаванасць вучняў у час матчаў. Што тычыцца трэніровак, то не самая важная іх колькасць, а пастаянны ўдзел вучняў у іх.

*— Хто з вучняў, з якімі Вы займаліся, дабіўся самых вялікіх поспехаў у валейболе пасля звышгімназічнай адукацыі?*

— Самых вялікіх поспехаў дабіўся Тамаш Дынкоўскі, што іграў у камандзе, якая ў 1998 годзе заняла першае месца ў нашым ваяводстве. Зараз ён іграе ў прафесійным клубе ў першай лізе ў Аўстрыі. У першай лізе ў прафесійных клубах у Польшчы ігралі браты Лукаш і Дар'юш Ялозы ў «Авіі Свіднік» і Данель Сачко ў «Пронары Гайнаўка».

*— Вы самі пачалі займацца валейболам яшчэ ў падставовай школе і дабіваліся тады поспехаў са школьнай камандай, а пазней ужо як вучань Гайнаўскага белліцэя.*

— Я пачаў займацца валейболам і больш інтэнсіўна трэніравацца яшчэ будучы вучнем Падставовай школы № 2 у Гайнаўцы, як вучань Аляксандра Сегеня. Нашая каманда тады заняла трэцяе месца ў Беластоцкім ваяводстве, а калі пачаў я вучыцца ў Гайнаўскім белліцэі, стаў трэніравацца пад наглядам нашага настаўніка фізкультуры Міколы Врублеўскага. Раней займаўся ён трэніроўкай дзяўчат, а ад васьмідзесятых гадоў у Міжшкольным спартыўным клубе «Гайнаўка» пачаў трэніраваць хлопцаў. Тады ў нашым белліцэі вучылася адносна нямнога хлопцаў і ў гэтым клубе займаліся вучні з розных гайнаўскіх сярэдніх школ. Тады, у 1982 годзе, наш гайнаўскі клуб заняў першае месца на чэмпіянаце Беластоцкага ваяводства і трэцяе месца ў Паўночна-ўсходнім макрарэгіёне. Я быў тады вылучаны як самы лепшы валейбаліст Паўночна-ўсходняга макрарэгіёна, які ахопліваў таксама Варшаву.

*— Вам тады запрапанавалі перайсці вучыцца ў Варшаву і займацца ў адным з варшаўскіх валейбольных клубаў, але Вы не прынялі прапановы і асталіся займацца валейболам у Гайнаўцы.*

— Я проста пабаяўся займацца ў клубе МДК Варшава з-за праблем з пазваночнікам. Мацней адчуваў я болі ў пазваночніку ў 1981 годзе, але і ў 1982 годзе падчас больш інтэнсіўных трэніровак у мяне таксама пачынаў балець пазваночнік. У Варшаве трэба было б трэніравацца пяць разоў у тыдзень і я апасаўся, што мой пазваночнік гэтага не вытрымае.

*— Пазней Вы вучыліся ў Акадэміі фізкультуры ў Варшаве і вярнуліся працаваць у родную Гайнаўку.*

— З-за праблем са здароўем пасля першапачатковых трэніровак я пакінуў больш інтэнсіўна займацца валейболам у Варшаве. Пасля вучобы ў вышэйшай установе настаўнік белліцэя Мікола Врублеўскі запрапанаваў мне працаваць у Падставовай школе № 2 у Гайнаўцы. Я там арганізаваў школьную каманду і вёў трэніроўкі з вучнямі. У Гайнаўскі белліцэй перайшоў я працаваць у 1991 годзе і ад гэтага часу пастаянна тут працую і займаюся са школьнымі валейбольнымі камандамі. У пачатку сваёй работы ў белліцэі я яшчэ займаўся на грамадскіх пачатках з камандай Падставовай школы № 2 у Гайнаўцы, якая два разы займала пятае месца ў Беластоцкім ваяводстве. Пасля хлопцаў з гэтай каманды я трэніраваў у нашым белліцэі, разам 9 гадоў і менавіта з гэтай камандай у 1998 годзе заняў першае месца ў ваяводстве.

*— Настаўнік фізкультуры Гайнаўскага белліцэя, які працаваў тут перад Вамі, і славуты гайнаўскі трэнер па валейболе Мікола Врублеўскі дабіваўся шматлікіх поспехаў у маштабе Беластоцкага ваяводства, Паўночна-ўсходняга макрарэгіёна, а нават у маштабе краіны. Ужо дзесяты раз Вы арганізуеце ў Гайнаўскім белліцэі турнір у памяць памерлага ў 2002 годзе Міколы Врублеўскага.*

— Мікола Врублеўскі лічыцца стваральнікам гайнаўскага валейбола. Дайшоў ён са сваімі вучнямі да ваяводскага і агульнапольскага ўзроўняў. Памёр ва ўзросце 62 гадоў і я, яго вучань, рашыўся арганізаваць турнір у памяць гэтага славутага настаўніка і трэнера. Мікола Врублеўскі пакінуў па сабе многіх выхаванцаў, якія зараз працуюць настаўнікамі фізкультуры і трэнерамі па валейболе. Зараз у мемарыяльным турніры прымаюць удзел перш за ўсё каманды, якіх трэнерамі з'яўляюцца вучні Міколы Врублеўскага. Пасля юбілейнага турніру я хачу памяняць час яго правядзення. Да гэтай пары праводзіўся ён у чэрвені і прымеркаваны быў да даты смерці Міколы Врублеўскага. У 2013 годзе хачу ладзіць турнір на зломе кастрычніка і лістапада, каб у час яго вучні маглі здабываць уменасці і вопыт перад школьнымі спаборніцтвамі. У чэрвені моладзь ужо пасля ўсялякіх гульняў і турнір быў да гэтай пары сяброўскай сустрэчай, дзе выніку спаборніцтваў і перамога не былі самымі важнымі. Спатыкаліся мы перш за ўсё каб паўспамінаць нашага трэнера. Перад першым турнірам мы зрабілі мемарыяльную дошку Міколу Врублеўскаму. Знаходзіцца яна перад уваходам у спартыўную залу нашага белліцэя, побач шматлікіх кубкаў, якія здабывалі і здабываюць нашыя вучні. Знаходзяцца на ёй побач здымка трэнера самыя важныя інфармацыі аб працы і поспехах галоўнага героя турніру Міколы Врублеўскага.

*— Дзякую за размову і жадаю поспехаў у будучыні.*

**Гутарыў Аляксей МАРОЗ**

PS. Пасля завяршэння валейбольнага турніру, арганізаванага 1 чэрвеня ў Гайнаўскім белліцэі ў гонар Міколы Врублеўскага аказалася, што першае месца заняла ў ім каманда выпускнікоў Гайнаўскага белліцэя з розных гадоў, другое — каманда сённяшніх гайнаўскіх белліцэістаў, а трэцяе — каманда Комплексу прафесійных школ з Гайнаўкі.

## Аферысты пад аховай

Нашы ўлады або баяцца аферыстаў, або іх ахоўваюць. Такая думка прыйшла мне ў галаву пасля выяўлення двух апошніх афёраў. Першая — сольная, калі бізнесмены дзеля нажывы куплялі танную тэхнічную соль, ачышчалі, фасавалі і прадавалі даражэй як харчовую соль. Калі чэхі прыгразілі, што абмяжуюць імпарт польскіх харчовых прадуктаў па прычыне прымянення пры іх вырабе тэхнічнай солі, міністр сельскай гаспадаркі ў тэлебачанні сказаў, што ў харчовую прамысловасць трапіла малая колькасць тэхнічнай солі і што яна няшкодная здароўю. Аднак спецыялісты сцвярджаюць, што спажыванне большай кольскасці такой солі здароўю шкодзіць.

Другая афёра выявілася ў Любліне. Там следчыя знайшлі сто тон марожанай рыбы, тэрмін прыдатнасці якой скончыўся пяць гадоў таму. Нягледзячы на гэта несумленныя аптавікі мянялі старыя этыкеты на новыя з новым тэрмінам прыдатнасці. Пэўна зноў скажуць, што гэта невялікая справа і ніхто не будзе прыцягнены да крымінальнай адказнасці.

На маю думку, тону пратэрмінаванай рыбы і цэнтнер тэхнічнай солі трэба даставіць на вуліцу Вейскую ў Варшаву, у сеймавую сталовую, каб там кухары падрыхтавалі з іх рыбныя стравы. Хай бы на два дні паслоў і сенатараў прабраў панос, каб не маглі ўсядзець у сваіх парламенцкіх крэслах, тады можа больш сур'ёзна заняліся б аферыстамі.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

## Запрашэнне на дранікі

3 мая быў я ў Гайнаўцы і зайшоў у невялічкі і прытульны рэстаранчык па вул. 3 Мая, у якім падаюць смачныя дранікі. Сёлета пачаў ён працаваць ад 15 сакавіка. Існуе пяць гадоў. Вядзе яго сімпатычная маладая жанчына. Яна ветлівая, з усмешкай на вуснах.

Можна там заказаць дранікі са смятанай ці кефірам, з грыбным соўсам або з агароднінай. У меню катлеты з фрыткамі і вінегрэтам. Ёсць кава і чай ды багаты выбар марожанага.

У рэстаранчыку былі турысты, якія ехалі ў Белавежу. Ад 1 да 6 мая было столькі вольных дзён ды стаяла сонечнае і цёплае надвор'е. За акном на ліпавых галінках паявіліся маладзенькія лісточкі. Было прыемна.

За суседнім столікам я пазнаў сезоннага суседа, які дабіраўся з Варшавы ў Ляўкова. Спытаў яго, як дранікі. Ён іх акурат еў і рэкамендаваў мне. **(яц)**



# Прыемнае з карысным

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

**Міжнародны дзень дзіцяці крынскія малечы правялі ў чароўным свеце гномікаў. Запрасіла іх туды мясцовае Аб'яднанне ў карысць інвалідаў і сацыяльна выключаных асоб „Драбіна".**

Мерапрыемства запланавана было ў пленэры, але моцныя ліўні загналі ўсіх у залу крынскай бібліятэкі. Старшыня аб'яднання і заадно арганізатарка дзіцячага фэсту Анна Галка ўсё-такі спадзявалася, што хоць на хвіліну чароўным, казачным спосабам прываражыць чыстае неба. Усе разам песнямі і вершыкамі клікалі сонца. Здавалася, што неба выслухала просьбы, дождж быццам бы спыніўся. Умомант павыносілі столікі з пачастункам, пачалі пячы каўбаскі ў вогнішчы. На жаль, непагода хутка вярнулася і недасмажаныя каўбаскі трэба было даядаць ужо ў бібліятэцы. Камерная прастора бібліятэчнага будынка паспрыяла мацнейшай інтэграцыі герояў дзіцячага свята. Былі вучні мясцовай гімназіі, інваліды і зусім маленькія дзеткі разам са сваімі матулямі.


Анна Галка ў акцыі

Гімназістаў можна было распазнаць па аднолькавых, сініх майках з надпісам „Валанцёр". Апрача маек яны прынеслі таксама спецыяльную забаўляльную праграму, падрыхтаваную пад вокам спадарыні Анны, прысвечаную найменшым і асобам з абмежаванымі магчымасцямі. Амаль кожнае дзіця мела свайго апекуна-валанцёра, з дапамогай якога ўдзельнічала ў вясёлых і разнародных спаборніцтвах. Малечы і дарослыя на пару гадзін ператварыліся ў гномікаў, каб адправіцца ў спецыяльнае падарожжа па казачнай краіне. Усім вельмі спадабаліся адмысловыя гульні з аграмадным, каляровым парашутам. Не бракавала таксама прабегаў з усякага тыпу перашкодамі і конкурсаў на найлепшага і найбольш арыгінальна пераапранутага танцора.


Крынскія валанцёры

З дапамогай валанцёраў можна было таксама размаляваць сабе твар спецыяльнымі фарбкамі і зрабіць маленькага звярка з надзьмутага шарыка. Вясёлая забава спалучыла ўсіх прысутных незалежна ад узросту ці ўзроўню інтэлектуальна-фізічнай спраўнасці.

Маладыя валанцёры прызналіся, што з ахвотай удзельнічаюць у такога роду мерапрыемствах. Пра дзіцячую акцыю даведаліся яны ў школе ад свайго настаўніка, а ў прыватнасці мужа арганізатаркі. Водгук быў неадкладны. Паводле іх, сустрэча ў кайфавай кампаніі і заадно дапамога іншым гэта самы лепшы спосаб правядзення свабоднага часу. Гімназіст Лукаш выявіў, што дзякуючы валанцёрству ён вучыцца пазнаваць і раскрываць свае эмоцыі, будаваць правільныя адносіны з іншымі, у тым ліку і з патрабуючымі дапамогі людзьмі. На яго думку, школа не выконвае гэтых важных задач, не вучыць дапамогі ці спачування іншым.

Дадатковыя святочныя атракцыі падрыхтавала дзецям таксама кіраўнік крынскай бібліятэкі Люцына Юркевіч. Кожны мог сабе выцягнуць шляхам жараб'ёўкі дзіцячую чытанку, укладаючы руку ў вялікі кніжны мяшок. Спадарыня Люцына ўжо другі год супрацоўнічае з „Драбінай". Тут, у бібліятэцы, праходзілі дзіцячыя інтэграцыйныя летнікі, а з восені пачаліся рэгулярныя штодзённыя тэматычныя заняткі.

Пры нагодзе сустрэч з удзельнікамі дзіцячых мерапрыемстваў спадарыня Люцына заўсёды стараецца папулярызаваць друкаванае слова і ўплываць на выхаванне новага пакалення чытачоў, будучых карыстальнікаў мясцовай бібліятэкі.

Аб'яднанне „Драбіна", дзякуючы сваёй вельмі актыўнай і вартаснай дзейнасці, здабывае сабе штораз больш прыхільнікаў не толькі сярод дзяцей, але і дарослых жыхароў Крынак і наваколля. Заснавальніца і старшыня аб'яднання Анна Галка сем гадоў таму пераехала сюды за мужам з падляпскага Угова Беластоцкага павета. Тут дачакалася двойкі вельмі актыўных хлопчыкаў. Анна па спецыяльнасці алігафрэнапедагог, вельмі адданая сваёй прафесіі. Раней яна працавала валанцёрам у аб'яднанні „Клянза", дзе раскрывала сакрэты педагогікі гульні. Так склалася, што свой вопыт у сацыяльнай рабоце перанесла менавіта на крынскі грунт. Зараз пасля пераезду стварыла свой першы праект „Пазнаем сябе", накіраваны да дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі. Прайшоў ён вельмі паспяхова. Зараз сабралася група зацікаўленых справай і заангажаваных бацькоў, якія запрапанавалі юрыдычнае афармленне дзейнасці. Такім чынам у 2009 годзе паўстала „Драбіна" — Аб'яднанне ў карысць інвалідаў і сацыяльна выключаных асоб. Адной з першых ініцыятыў у рамках дзейнасці аб'яднання быў спартыўны праект, прафінансаваны Павятовым стараствам у Сакольцы. Потым Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства прафінансавала інтэграцыйныя музычныя майстар-класы ў рамках праекта „Урок шматкультурнасці". Гэтая ініцыятыва праходзіла ў двух выпусках у 2010 і 2011 гадах. Маладыя ўдзельнікі інтэграцыйных майстар-класаў знаёміліся з беларускімі, татарскімі і яўрэйскімі песнямі Крыншчыны. Напачатку на заняткі прыходзіла каля дваццаці дзяцей, на апошнім этапе было іх каля сарака. У 2010 годзе быў арганізаваны інтэграцыйны летнік. Штодзень на працягу двух месяцаў дзеткі пашыралі свае краязнаўчыя веды, вучыліся ганчарству, ткацтву і іншым мясцовым рамёствам. У рамках летніка была арганізавана экскурсія на Аўгустоўскі канал, а таксама ў Музей Аўгустоўскай зямлі. Для многіх гэта была першая сур'ёзная экспедыцыя ў жыцці.

Паралельна вяліся, між іншым, урокі бразільскай капаэйры і цыркавыя майстар-класы.

Ініцыятывы „Драбіны" плануюцца ў сапраўды інтэграцыйным кантэксце. Малечы, гімназісты, людзі разумова адсталыя, бацькі знойдуць там сваё месца і напэўна задаволяць прынамсі частку сваіх жыццёвых патрэб.

Цяпер аб'яднанне рэалізуе праграму „Садзік гульні", фінансаваную праектам „Моладзь у дзеянні". Праграму складаюць, між іншым, урокі англійскай мовы і шахматы. Штогод „Драбіна" ўдзельнічае ў конкурсе турыстычнай песні, зараз вядзецца падрыхтоўка новага рэпэртуару. Таксама апрацоўваюцца аўтарскія песні на II Агляд бардаўскай песні інвалідаў, ладжаны аб'яднаннем у Крынках. Безупынна ўстанаўліваюцца кантакты і ладзіцца супрацоўніцтва з падобнага роду арганізацыямі ў цэлай краіне. Дзякуючы перш за ўсё рашучасці і захапленню спадарыні Анны, перспектывы вельмі хутка пашыраюцца. У планах — адкрыццё ў Крынках сапраўднага, спецыялістычнага цэнтра дапамогі асобам з абмежаванымі магчымасцямі. Ужо цяпер аб'яднанне паспяхова змагаецца з масавым беспрацоўем, ствараючы ў Крынках першыя тры працоўныя месцы.

У канцы 2011 года „Драбіна" атрымала статус арганізацыі публічнай карысці, што значна пашырыла доступ да новых фінансавых рэсурсаў, а заадно павялічыла шансы здзяйснення чарговых, сур'ёзных і вельмі тут чаканых задумак спадарыні Анны.

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

# Беларускі малебен у Беластоку





Ёсць у гэтым знак часу, калі на святкаванні, дзе танчаць і спяваюць, наш народ бяжыць у падскоках, а калі якая багаслужба, усе раптам заняты. З года ў год на беларускі малебен за вучняў, бацькоў і настаўнікаў прыходзіць усё меншая колькасць людзей. Прытым аснову складаюць пачынальнікі, частка з якіх выправіла ўжо сваіх дзетак на вучобу ў шырокі свет. Для іх малітва на роднай мове гэта справа гонару і ўдзячнасці за пражытыя досведы. І свядомасць, што падобныя нагоды, калі ёсць магчымасць памаліцца на роднай мове, бываюць раз ці два ў год...

5 чэрвеня, у беластоцкай царкве святога Юр'я, сабралася да трыццаці асоб, каб супольна памаліцца за мінаючы навучальны год. Малебен традыцыйна адслужылі настаяцель а. Рыгор Місіюк і дыякан Тамаш Цыркун.

— Учора на Святой літургіі былі такія словы ў Евангеллі: назірайце за дзяцьмі, — пачаў настаяцель. — Не ігнаруйце дзяцей, бо іх Анёлы-ахоўнікі бачаць заўсёды твар Айца Нябеснага. Дзеткі чуюць Бога сэрцам, яны спяшаць прыняць яго ў святым прычасці. Я гэта часта бачу, як у час калі спяваюць „Верую", дзеткі як птушаняты становяцца ўжо ў чаргу, каб першымі падысці да прычасця. Інача́й бацькі, іх анёлы ўжо занятыя, у іх няма часу, каб сцерагчы нас, каб паказваць важнае і адкінуць ману...

Святар напомніў дарослым пра іх адказнасць у духовым выхаванні дзяцей. Каб самі вучыліся ад іх успрымаць веру чыстым сэрцам, без прымусу і крывадушнасці. Каб разумелі, што ўсё пачынаецца з духа, без якога няма жыцця.

Кранальныя словы настаяцеля цудоўна пераклікаліся з падстроеным на беларускі лад хорам, які павяла матушка Анна Цыркун з дачушкай-немаўляткам на руках.

На канец традыцыйна ўсе праспявалі „Магутны Божа". У гэтай урачыстай хвіліне не хапіла многіх настаўнікаў і грамадскіх дзеячаў, якія так любяць пахвастацца сваімі поспехамі на ніве беларускай асветы. Багаслужбу наладзіла аб'яднанне АБ-БА, якое сёлета адзначае 15-годдзе навучання беларускай мове ў Беластоку.

# Соладка-горкая „Фальклорная бяседа"



Тэкст і фота Эвы ВАШЧЫНСКАЙ

**11 траўня ў белавежскім Асяродку лясной адукацыі „Ягелонскае" адбыўся канцэрт фальклорных спеваў у рамках фестывалю Дні царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Мне было трэба ажно двух тыдняў, каб усё перадумаць і даць ацэнку гэтаму мерапрыемству. Але, давайце, ад пачатку...**

У прыгожы травеньскі вечар мы з мужам выбраліся ў напрамку польска-беларускага пагранперахода, у даўнюю жвіроўню, дзе зараз знаходзіцца амфітэатр. Выбраліся туды таксама шматлікія жыхары Белавежы ды іхныя госці. Луг, які акаляе Асяродак, лясная дарога да яго шчыльна запоўніліся машынамі шчасліўцаў, якім удалося знайсці свабоднае месца.

Атмасфера была чароўная. Пушчанскі вечар рассвятлялі шматлікія свечы, дзе-ндзе гарэлі факелы. Над усім дамінаваў вялікі крыж-ліхтар.

Пераважна фальклорны рэпертуар прадстаўлялі хары, якія ўдзельнічалі ў фестывалі царкоўнай музыкі. Першым выступіў хор Чэшскіх і Славацкіх зямель. Прыемна было пачуць знаёмую чэшскую мову. Далей свае добра пастаўленыя, але далікатныя як званкі галасы прэзентаваў літоўскі хор „Свяцілен". Праспявалі яны на сваёй роднай мове дзве песні ды развіталіся з публікай на расійскай мове. Далейшым выступленням я прыслухоўвалася з асаблівай увагай, таму што на сцэне з'явіліся беларускія святары з Гродзенскай вобласці. Праспявалі яны фальклорныя і рэлігійныя творы. Іхняе „Хрыстос васкрос" напомніла, што нядаўна мы святкавалі Вялікдзень. „Магутны Божа" было для мяне радасным сюрпрызам. У тым часе не надта ж прафесійна вядучы мерапрыемства Пётр Ляўчук дазволіў сабе сказаць „смешны" жарт, сутнасць якога заключалася ў тым, што каталіцкі святар мог бы дачакацца нават звання рымскага папы, але ж Богам стаць не можа, а вось адназу яўрэю такі трук атрымаўся... Надта ж тактоўна.

У палове канцэрта знайшлося месца на „рэкламную паўзу" з бясконцым пералікам спонсараў — ад дзяржаўных установ да прыватных асоб. Слухачы ратаваліся размовай ды экскурсіямі ў лес за галінкамі, каб адганяць камароў. Наступных выступоўцаў, балгарскі хор з Берліна, канферансье-паліглот прывітаў з нямецкімі словамі на вуснах. Балгарскія песні захапілі мяне сваёй свабодай, лёгкасцю ды пачуццём імправізацыі. Прыемна было паглядзець колькі радасці дае спевакам гульня з гукамі. Далей выступіў крыху экзатычны хор румынскіх святароў.

Ды ў рэшце рэшт паявіліся артысты, якіх абвясцілі „цвіком" праграмы, галоўным атракцыёнам вечара — Акадэмічны ансамбль песні і танца Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Артысты ў вайсковай форме выдатна вядомыя не толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі. У знак прызнання заслуг для развіцця беларускай культуры яны атрымалі ў Беларусі ордэн імя Францыска Скарыны. Гэтая інфармацыя прынесла мне надзею на цікавае выступленне. „Жаўнеры" ігралі таксама на інструментах — рытм дыктаваў тамбурын, а мелодыю падкрэсліваў акардэон. Прагучала песня „Цячэ вада ў ярок". Але хутка чар знік. Уключыўся кампакт-дыск і раптам мы пачулі акампанемент нябачнага аркестра да песенькі „Разпрагайце хлопцы коней". І вось, на гэтых дзвюх песнях фасадная беларуская культура закончылася і ўступіла месца таму, што сапраўды грае ў сэрцах гасцей з Белоруссіі — рускамоўным савецкім гітам „Катюша", „День Победы". Не хапіла толькі гімна Савецкага Саюза, ды песень у гонар таварыша Сталіна... Мне зрабілася сумна і пашкадавала я славутага асветніка Скарыну, што ягонае імя ў такі спосаб зневажаецца. Вялікі крыжліхтар неяк моцна кантраставаў з савецкімі песнямі, сумна дагасалі шматлікія свечы, быццам бы лампады на магілах ахвяр савецкіх часоў.

Такім быў салодка-горкі смак „Фальклорнай бяседы".

## Ахоўвайма прыроду!

У наш час з асаблівай актуальнасцю і вастрынёй паўстае праблема захавання навакольнага асяроддзя для нашага і наступных пакаленняў. Усе прыродныя аб'екты становяцца ўздзейнічаюць на людзей. На мой погляд, сродкі масавай інфармацыі павінны дапамагаць дзяржаўным і грамадскім арганізацыям пашыраць экалагічную культуру.

Нашы продкі ад вякоў жылі ў царстве неабсяжных лясоў, лугоў, балот, у якіх вадзіліся розныя віды птушак і жывёл. Жыхары маёй роднай вёскі Рыбакі заўсёды любілі прыроду. З дзяцінства помняцца мне агародчыкі з кветкамі перад дамамі і прысады з кустоў бэзу, вішань, ліп, клёну, язміну, чаромхі. Нават дубы садзілі. А якія раней сады буялі ў вёсачках і мястэчках нашай малой айчыны — Беласточчыны. Маё дзяцінства, а наогул усіх вясковых дзяцей, праходзіла на ўлонні роднай прыроды. Мо таму і раслі дзеткі разумнымі і здаровымі.

Што ж сёння засталося нам ад былога раю? Павінны мы ўрэшце ўсвядоміць, што ахова навакольнага асяроддзя — адна з найважнейшых умоў паляпшэння дабрабыту нас усіх. Які ж сапраўдны жыхар нашага Падляшша без лесу, рэчак і балот, якія так бязлітасна апаскудзіла меліярацыя? Сёння мне, грамадзяніну РП, вельмі балюча, што ў наш час знішчаецца прырода, а лес у многіх месцах параўтвараецца ў сметнік. Зараз складваецца ўражанне, што ад прыроды хутка застануцца толькі помнікі.

Мы ж ве варвары, таму павінны шчыра дбаць пра экалагічную стабілізацыю навакольнага асяроддзя. Знікненне любога віду — непапраўная страта для ўсёй прыроды. У наш складаны і вірлівы час кожны жыхар павінен дбаць пра тое, каб у сваім рэгіёне, горадзе, вёсачцы ахоўваць фаўну і флору і тым самым зберагаць прыродны генафонд.

**Віктар БУРА**

## Незвычайныя крыніцы

Вада неабходная чалавеку. Яна давала жыццё і яе шанавалі з незапамятнага часу. Хрысціянам яна асацыюецца перш-наперш з хрышчэннем, ачышчэннем і духоўнасцю.

На Беласточчыне ёсць некалькі незвычайных крыніц, вада з якіх аздараўляе хворых. Да іх традыцыйна адбываюцца паломніцтвы, м.інш. на Святую Гару Грабарку, у Крыначку каля Гайнаўкі, у Адрынкі каля Нарвы, Ляды каля Курашава, Дабрываду ці Стары Корнін. Назва мясцовасці Дабрывада выводзіцца ад смаку добрай вады. Частку вёскі Дабрывада на мясцовай гаворцы называюць Крынічнай. Там вада здаўна лічыцца цудадзейнай. Здараліся аздараўленні, м.інш. ад слепаты.

Зараз на Падляшшы ёсць каля трыццаці святых месцаў асабліва шанаваных вернікамі. Важным элементам месца культу з'яўляецца крыж, як знак мукі Хрыста, ды вада, як сімвал ачышчэння і жыцця, а таксама гара, як месца аб'яўлення. Месцы культу пры крыніцах Царква адабрае. Такім месцам з'яўляецца крыніца ў Лядах. Захоўваецца вестка, што невідучы чалавек, за якога ахвяраванні была пабудавана капліца, зноў пачаў бачыць.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Арэшкава: школа ў кветках



Фота Ганны Кандрацюк

У час нядаўняй сустрэчы ў Арэшкаве мы рашылі пайсці на двор, каб падшукаць сабе прыгожы фон для здымкаў. Якраз расцвіла вясна. Дакладна! Ужо за будынкам школы сустрэў нас жоўта-зялёны дыван дзьмухаўцаў. Здавалася, што зямелька танчыць у сонечным ранку. А гэта завіхаліся працавітыя пчолкі і матылі, якія збіралі салодкі нектар з красак. Дзяўчаты ведалі што ім рабіць. Раксана, Каміля, Моніка спантанна, без ніякай падказкі, пачалі звіваць вяночкі.

— Калі ў нас будзе адпаведная даўжыня, тады закрунем яго ў кола і будзе гатова, — падказвае дзяўчатам Анна Франкоўская. — У „Ніве" напісалі, што так аздаблялі кароў на Юр'е. Давайце і мы падрыхтуем сабе такую „біжутэрыю"...

Сама настаўніца як вясновая кветка, таму яе словы адразу заінспіравалі дзяўчатак. І яшчэ больш хлопцаў — яны пачалі жартаваць і прыдумваць усякія фокусы. У жартах і перагаворах адчувалася сяброўства, файнасць, інтэлігентнасць...

Наша сустрэча была свайго роду падвядзеннем вынікаў супрацоўніцтва з „Зоркай". Цягам апошняга паўгоддзя тут не прапусцілі ні аднаго тэматычнага конкурсу або крыжаванак. Таму ў школу мы прыехалі з мяшком кніжак, кампакт-дыскаў, маек з беларускімі надпісамі. Сярод узнагарод была кніжка пад загалоўкам „Ой даўно, даўно", у якой беластоцкія гімназісты і ліцэісты спісалі гісторыі сваіх сем'яў (на дыялектах і на літаратурнай мове).

— Мы таксама пойдзем да старэйшых людзей і запішам іх успаміны, — кажа настаўніца. — Хочам, каб вучні больш адчувалі сувязь з людзьмі і месцам.

Крок у бок захавання старой сувязі ў Арэшкаве зрабілі ўжо напярэдадні Свята вясны. Выкапалі расселяныя па шырокім школьным пляцы аздобныя раслінкі і пасадзілі іх у школьным агародчыку. Сярод раслін захаваўся, між іншым, від дзікага нарцыса, у якога вытанчаны пах і міфічная прыгожасць. Гэтую кветку, па прычыне яе травападобнага лісця, найлягчэй знішчыць касілкай. Каб захаванне расліннасці мела шырэйшы сэнс, варта запісаць яго дыялектныя назвы, павер'і, легенды, песні. Раслінная карта існуе ў душы кожнага чалавека ад Белавежскай пушчы. Яна можа натхняць да мастацкай творчасці і мяняць вобраз свету. Найлепшым прыкладам тут творчасць Тамары Тарасевіч, амерыканскай мастачкі родам з Белавежы. У галерэі яе карцін фізічна адчуваецца пах пушчанскіх кветак і легендарную моц купальскіх абрадаў.

Пра ўсё гэта ведаюць (найчасцей несвядома) вучні арэшкаўскай школы, дзе за акном шуміць Белавежская пушча.

— І растуць на спартовай пляцоўцы грыбы, — дадаюць вучні.

**ЗОРКА**



Фота Ганны Кандрацюк

# Конкурс пра вясну (25)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам лета. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Які беларускі паэт нарадзіўся ў Купалле?**
а) Максім Багдановіч,
б) Рыгор Барадулін,
в) Янка Купала.

**2. Ад якога народнага свята ўзнік літаратурны псеўданім Івана Луцэвіча?**
а) Грамніц,
б) Купалля,
в) Каляд.

**3. Якую важную гадавіну адзначаем у бягучым 2012 годзе?**
а) 100 гадоў з дня нараджэння Марка Шагала,
б) 130 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа,
в) 50-годдзе рэдакцыі „Нівы"

**4. Якая расліна з'яўляецца сімвалам Купалля?**
а) сланечнік,
б) купальнік,
в) папараць-кветка.

Адказы дасылайце да 31 чэрвеня 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**ЗОРКА**

# Вершы Віктара Шведа

## Пейзажны мастак

Мастак у Закапаным
Распачынае працу.
Да яго нечакана
Прысеў старэнькі баца.

— Я пану спачуваю,
Працуе так заўзята.
Шкада што пан не мае
Фотаапарата.

## Люстра ў магазіне

У мясным магазіне
Люстра ўжо залунала.
За прылаўкам жанчына
Аб ім шэфа спытала.

— Надта важную ролю
Скарыстаць мы хацелі,
Каб кліенткі ніколі
На вагу не глядзелі.

# У шудзялаўскіх школьнікаў

„Тата, мама, дзед , бабуля, я — наша дружная сям'я” — такой вясёлай лічылкай прывіталі мяне вучні шудзялаўскага рэгіянальна-беларускага кружка. Малады фанаты нашай культуры з задавальненнем прывіталі зацікаўленага імі госця, вельмі хацелі пахваліцца сваімі дасягненнямі і поспехамі, падзяліцца беларускім словам. Шудзялаўскі беларускі кружок адметны тым, што ўдзельнічаюць у ім не толькі беларускія, але і польскія дзеткі. Некаторыя з іх расказалі пра сваю сустрэчу з беларушчынай. Напрыклад, трэцякласніца Наталька Горчак прызналася, што прыходзіць на заняткі, каб даведацца пра Беларусь. Яшчэ ніколі яна там не пабывала, але вельмі хоча яе наведаць, найлепш са школьнымі сябрамі і абавязкова з любімай настаўніцай беларускай мовы Людмілай Клімук. Наталька з'яўляецца аўтаркай сачынення пра гісторыю ўзнікнення беларускай мовы, якое ацэньвала журы конкурсу „Пазнай Беларусь”.



Да ўдзелу ў дадатковых школьных занятках Габрысю Рашкоўскую ўгаварыла мама. Чацвёртакласніца паслухала добрай, мамінай рады. З усіх школьных кружкоў яна выбрала менавіта беларускія заняткі, у якіх удзельнічае ўжо другі год. Беларускую мову яна чула ў хаце сваёй бабулі ў вёсцы Гураны, што ў Крынскай гміне. Габрыся вельмі любіць спяваць, тут пазнала прыгожыя, народныя песні, з якімі ездзіла ў Беласток на конкурс „Беларуская песня”. Нядаўна Габрыся атрымала другое месца ў XLII Дэкламатарскім конкурсе „Паэзія і проза на ўсход ад Буга”. Дзяўчынка прызналася, што на так высокае месца не разлічвала. У яе ёсць сяброўка — аднакласніца і цёзка — Габрыся Станішэўская, таксама ўдзельніца рэгіянальна-беларускага кружка. Габрыся жыве з мамай, татам і братам у падшудзялаўскім надлясніцтве Пачопак. Рэдка сустракаецца яна з дзядулямі, бабулямі і цёцямі з далёкай Сілезіі і Мазур. Усё ж такі пару тыдняў таму наведала мазурскіх сваякоў з нагоды святой камуніі аднаго з малодшых сваякоў. Там на святочным застоллі яна запрэзентавала свае новыя ўмеласці. Сабраныя госці ўпершыню ў сваім жыцці пачулі меладычнасць беларускай мовы і вядомы дзіцячы верш „Акуляры” ў беларускім перакладзе.

Два гады таму Габрыся прыйшла паглядзець на першыя заняткі толькі што створанага беларускага кружка і... засталася ў ім. Прыцягвае яе тут, між іншым, добрая, амаль сямейная атмасфера. Калі будзе такая магчымасць, Габрыся згодна далей паглыбляць свае веды па беларускай мове і культуры.

Бацькі і дзяды Натанькі Лазарэвіч з Астраўка штодзень карыстаюцца беларускай мовай. Так сама размаўляюць іхныя суседзі ў вёсцы. У роднай хаце Натанькі надалей падтрымваюцца народныя традыцыі, чуваць таксама сучасную беларускую музыку з кампакт-дыскаў. На заняткі ў кружку Натанньку паслаў тата Грыша, які сам калісь вучыўся беларускай мове ў школе. Ейная пяцігадовая сястра Каміля ў будучыні таксама збіраецца ўдзельнічаць у беларускіх занятках.

Чацвёртакласнік Крыстыян Станкевіч — адзіны мужчынскі разынак у гэтай кампаніі. Дзякуючы беларускаму кружку ён упершыню прыняў удзел у конкурсе. У гэтым годзе Крыстыян дэкламаваў беларускую паэзію ў чарговым выпуску конкурсу „Роднае слова”. Як сам сказаў, на сцэне адчуваў сябе ўпэўнена. Паводле слоў ягоных сяброўак, Крыстыян гэта сапраўдны герой, які ніколі і нічога не баіцца.

Кася Вішнеўская толькі пачынае сваю адукацыйную дарогу. Яна не забыла і пра родную, беларускую мову. Разам са старэйшымі сябрамі па кружку кожны тыдзень засвойвае штораз больш ведаў, між іншым, па гісторыі і культуры Беларусі. Кася вельмі любіць спяваць. Яе любімая песня гэта „Захварэў мой бедны коцік” на словы Міры Лукшы. Дзякуючы спадарыні Людміле, яна знаёміцца з фальклорнымі песнямі, між іншым, са зборнікаў Сцяпана Копы. Тут навучылася таксама праваслаўных калядак.

Ала Кухарэвіч пакуль яшчэ не ўдзельнічала ў беларускіх конкурсах, але ахвотна сустракаецца з сябрамі на занятках, каб разам пагуляць у беларускія настольныя гульні, паспяваць, паслухаць прыгожых казак.

Мая кароткая сустрэча з удзельнікамі заняткаў па беларускай мове ў Шудзялаве завяршылася дэкламацыяй вершыкаў і супольным спяваннем вядомых народных песень. На канец настаўніца Людміла Клімук беларускім звычаем запрасіла ўсіх на салодкі пачастунак.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Музыка з кайфам

## Людзі ў дарозе

Частка гурту „Людзі на балоце” цяпер праз два тыдні недаступная. Паехалі на велаіпедную экскурсію. Проста селі на ровары і гуляюць па Беларусі. Гэта не адзін занятак, які аб'ядноўвае музыкаў, але дазваляе ён адчуць, што яны любяць сябе ўзаемна, паважаюць. Таму і музыка так добра ўспрымаецца.



Фота Войтка Вайтквлевіча

„Людзі на балоце” гэта літаратурная назва, якая паказвае таксама мастацкую ангажаванасць сяброў гарадзенскага гурту. „Людзі на балоце” — гэта ідэйны напрамак, які акрэслівае творчасць гурту Алеся Дзянісава. А сам Алесь Дзянісаў? Хаця яму ўжо не дваццаць гадоў (выступаў з „Кальянам” яшчэ ў 1990-х гадах), але хапае яму і энергіі, і думак, і ахвоты, каб працаваць з чарговым гуртом, вельмі зараз важным для развіцця і прамоцыі беларускай культуры.

„Людзі на балоце”, як адзін з двух беларускіх гуртоў, прадстаўляў беларускую творчасць у Беластоку на фестывалі „У палове дарогі”. За адны выхадныя выступіў не толькі на сцэне Падляшскай оперы і філармоніі, але таксама зайграў у Гайнаўцы, дзе традыцыйна прайшоў канцэрт „Культура на сходах музея”, у рамках якога прэзентаваліся фольк-калектывы і сучасныя гурты. „Людзі на балоце” паказалі, што сёння ў Беларусі можна ствараць адказна, ангажавана і сапраўды якасна. Не мяшае тут зусім факт, што гурт ствараюць людзі, для якіх музыка гэта цудоўная прыгода, а не прафесійная дзейнасць. У кожнай хвіліне адчуваецца, што гэтая творчасць патрэбная.

Пасля ўсіх канцэртаў, якія прайшлі ў рамках фестывалю „У палове дарогі”, якога першая частка мела фінал у нядзелю, гурты сустрэліся на афтэр-парты. „Людзі на балоце” выцягнулі свае інструменты і, дзякуючы таму, пасля шэрагу цудоўных песень можна было паслухаць яшчэ нестандартных выступаў фестывальных зорак з Францыі, Ісландыі ці ЗША. Пры кожным выступе гарадзенцы на іншых інструментах стварылі цудоўную атмасферу міжнароднага jam session. У час супольнага музыкавання аказалася, што адзін з французаў мае ў Беларусі сям'ю, а амерыканскія зоркі могуць захапіцца беларускім словам ды музыкай. Музыка гурту „Людзі на балоце” пераносіць слухача ў свет не толькі цікавы, але дазваляе адчуць, што можа быць таксама важным маніфестам і цудоўным перажываннем. Няхай рэха канцэртаў гурту „Людзі на балоце” доўга нясецца, а мы шукайма нагоды, каб з імі сустрэцца, бо проста зачароўваюць слухача, нават калі спяваюць пра танкі, нават калі моцна спяваюць пра вайну.

i_basovka@o2.pl

# Польска-беларуская крыжаванка № 25

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 21:**

Мак, шпак, кос, ар, рэпа, парк, клан, каб, мокры, ізба, крынічка, стог, ом, пакаленне, ой, анда, Об, строй, эпоха. Паветра, корм, спорт, скок, крок, крыга, палын, лоб, Іра, іней, рэ, ікона, экзамен, паб, дых, абарона.

Узнагароды, ільняныя кулькі з лагатыпам „Нівы”, выйгралі **Лукаш Марчук**, **Крыстына Леўша**, **Юлія Лясота**, **Караліна Каравай**, **Мілена Яцэвіч**, **Эва Сковіч** з Нараўкі, **Ян Алемпіюк** з Чаромхі, **Моніка Раманчук**, **Адрыян Бугвін**, **Марцін Аврачук** з Арэшкава. Віншуем!

Zaspa Portal Tales Konik Czaro-dziejka Kawka Tło Szach i... Sens Kultura Mur Ola Futro Warunek Fortuna Tata Piłkarz Alek Uch! Silnik Tur Socha

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

# Чаму Купала не наведаў Вязынкі?

Месца, дзе нарадзіўся чалавек, вельмі важнае ў культурным кантэксце, — такімі словамі прывітала аўдыторыю доктар Лена Глагоўская і адначасова нагадала пра святкаванне 130-й гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Даклад і прэзентацыі прысвячаліся месцам, звязаным з нараджэннем і жыццём Янкі Купалы. Падзея шмат у чым асвятліла малавядомыя факты, звязаныя з біяграфіяй класіка ды некаторыя з іх падаліся сенсацыяйнымі. На гэта ўсё спрацавала прысутнасць знакамітых гасцей з Польшчы: прафесар Марыі Нагенць-Свяневічовай і вядомага гісторыка Ежы Свяневіча, нашчадкаў роду Замбжыцкіх з маёнтка Вязынь, таго самага, дзе нарадзіўся Купала. Дапаўненнем стала мультымедыйная прэзентацыя з жыцця музеяў, прысвечаных Купалу, якую прадставілі Марыя Барткова і Ала Дражына з Мінска.



Злева: Прафесар Марыя Нагенць-Свяневічова

Злева: Ежы Свяневіч



* * *

Для сучаснага беларуса слова „Вязынка" адназначнае з Янкам Купалам. Гэтае спалучэнне мацуе каларытны міф пра купальскі абрад, — як вядома, у гэты дзень нарадзіўся беларускі пясняр. Гульбішчы ў гонар сонца мелі спраўляць сяляне з вёсак прыналежных двару, на узгорку Арарат, што высіўся ля рэчкі, непадалёк маёнтка. Разам з вяскоўцамі гулялі Бянігна і Дамінік Луцэвічы, бацькі будучага паэта, збяднелыя арандатары, якія любілі народ і яго абрады. Пры гэтай паэтыцы чамусьці рэдка асвятляецца факт, што ў згаданы час царква рэзка забараняла спраўляць Купалле. Няма таксама доказаў на нейкую сентыментальную вязь паэта з месцам нараджэння. У дарослым жыцці Купала ніколі не наведаў Вязынкі, не назваў таксама яе ў сваіх творах. Нават, калі пабываў непадалёк, заўсёды было яму не па дарозе. Гэтую акалічнасць савецкія даследчыкі патлумачылі варожасцю паэта да феўдалаў-крывасмокаў, у канкрэтнасці да ўласнікаў маёнтка Замбжыцкіх. На самай справе з сям'ёй памешчыкаў паэта спарадніла класавае і духовае сваяцтва. Яго хроснай маці была Алімпія Замбжыцкая, жонка Станіслава, уласніка маёнтка Вязынь. (Яна ахрысціла таксама Мікалая, старэйшага брацікa Янкі, які памёр у маленстве). Будучага песняра ахрысцілі ў касцёле ў Радашковічах, і ў метрыцы ганарова пазначылі яго шляхецтва, хаця на той час Луцэвічы ўжо згубілі правы на шляхецтва і былі прыпісаны мяшчанамі. Пра папраўнае сужыццё памешчыка і арандатара паказвае адзін прыклад: Станіслаў Замбжыцкі і Дамінік Луцэвіч разам выводзілі пчол і даглядалі пасекі, а свой салодкі прыбытак дзялілі на дзве роўныя часткі. Замбжыцкія не былі багацеямі-арыстакратыяй, хутчэй сярэдняй шляхтай, якая гаспадарыла на 300 гектарах зямлі. Станіслаў быў інвалідам, таму маёнтак аддаваў у рукі арандатараў, якім прыпадала трэцяя частка ўсяго прыходу. Яго жонка Алімпія прыйшла замуж без пасагу, з-за чаго ў вачах багатай шляхты і арыстакратыі бачылася ахмістрыняй...

Найхутчэй на адсутнасць эмацыйнай сувязі паэта з Вязынкай спрацавала адна акалічнасць: ён пражыў тут дзевяць сваіх першых месяцаў, пасля чаго сям'я пераехала шукаць працы ў іншы двор. Нехта падумае: а чаму не наведаў ён хроснай матулькі? Адказ таксама нашэптвае час. Алімпія Замбжыцкая памерла ў 1901 годзе, а яе магілка па сённяшні дзень знаходзіцца на могілках у Радашковічах.

* * *

Прафесар Марыя Нагенць-Свяневічова пачала даклад з удакладненняў. Першапачаткова назва „Вязынка" адносілася адно да рачулкі. Пасля аднайменна назвалі чыгуначную станцыю і калгас імя Янкі Купалы. Сам двор, дзе нарадзіўся і правёў першыя месяцы жыцця Купала, у гістарычных крыніцах пазначаны як Вязынь. Знаходзіцца ён на мяжы водападзелаў Балтыйскага і Чорнага мораў. Дакладчыца прывяла легенду, звязаную з рачулкай Князяняйкай, якую запісала энтограф Алімпія Свяневіч, у прыватнасці, маці госці. Славутая вучоная пачула яе ў гады дзяцінства ад пастушка Базыля, з якім разам пасвілі кароў. Рэчанька, як верыў народ, узнікла са слёз княгіні Рагнеды, адпраўленай мужам на выгнанне ў Заслаўе. Легенда фізічна наклікала дух хрысціянства, паколькі мясцовыя сяляне прыналежалі да праваслаўнай парафіі ў Заслаўі. У 1817-1818 гадах дзякуючы Валянціну Замбжыцкаму ў маёнтку ўзнік філіял заслаўскай парафіі. Памешчык пабудаваў у вёсцы Сяледчыкі ўніяцкую капліцу з лістоўніцы, якая захавалася па наш дзень. У ёй быў абраз святога Юр'я і званы, якія званілі чыстым гукам. (Пра званы, якія давалі нячысты гук, людзі з Сяледчык казалі, што яны не звоняць, а *брэзгаюць*). Парафіяльныя святы адзначалі тут на Юр'е і Пакровы. У капліцы, яшчэ пры памяці славутай этнограф, сяляне спраўлялі Дзяды. Тут таксама доўга захоўвалі адметны спосаб хавання памерлых, калі замест святара запрашалі старасту, які запяваў песні, практыкаваныя ў часы царкоўнай уніі. Як не цікава, унію ў Сяледчыках скасавалі толькі пасля 1864 года. Месца нараджэння аўтара „Кургана" значыць таксама археалагічная каштоўнасць — непадалёк двара знаходзіцца курган часоў III-IV стагоддзя. Яго апісаў ужо напрыканцы XIX стагоддзя Станіслаў Замбжыцкі, той самы, які разам з бацькам будучага беларускага класіка гадаваў пчол і дзяліўся мёдам.

* * *

У прадзеда была звычка *mówić słowem wiązanym*, (*гаварыць вершам — Г. К.*) — адзначае прафесар Марыя Нагенць. Аказваецца, што паэтычныя флюіды былі закладзены ў Вязынцы шмат гадоў да нараджэння Купалы. У 1873 годзе Станіслаў Замбжыцкі напісаў „Гутарку Сталюка" (гэты верш надрукаваў у сваёй кніжцы-ўспамінах пад загалоўкам „*Szmat czasu*" нашчадак Ян Замбжыцкі). Фенамен заключаецца ў тым, што гэта верш на беларускай мове.

„Гутарка Сталюка" ўзнікла пасля смерці Фаўстыны Прушынскай, уласніцы маёнтка Анусін ля Заслаўя. Пасля паўстання 1863 года маёнтак Прушынскіх быў канфіскаваны і прададзены царскаму афіцэру, якога ў вершы завуць Харытон. Дзея адбываецца ў сціплай хатцы пасэсара маёнтка, нейкага Ігната. Гэты персанаж спісаны з Ігната Бжазінскага, збяднелага шляхцюка, удзельніка паўстання, які ўпраўляў канфіскаваным Анусінам. У сціплую хатку Ігната з'язджаецца навакольная шляхта, каб паўспамінаць пакойную паню, якая для ўсіх была роднай маткай. Прыезджыя размаўляюць пра гаспадарку, каментуюць пачутыя навіны. Паміж дзелавой гутаркай лунае пах свойскай яды, акрашанай гумарам і насмешкай з касмапалітызму. Станіслаў Замбжыцкі называе сябе „старым храмуком і калекам", ды просіць у чытача прабачэння, калі што не так. Літаратурны Ігнат, як паясніць прафесар Нагенць, гэта вялікі сябра яе прадзеда, удзельнік паўстання 1863 года, якому пашчасціла пазбегчы ссылкі...

* * *

Станіслаў Апалінары Замбжыцкі жыў у 1826-1908 гадах. У 12 гадоў астаўся сіратой, у сувязі з чым яго і сястру Валянціну прынялі на выхаванне шляхцічы Валадковічы з Новага Двара. У спадчыну ад бацькоў Станіслаў атрымаў фальваркі Вязынь, Маеўшчына і Крыніца. Ажаніўся з Алімпіяй Чэкатоўскай, з якой нажыў шасцёра дзяцей.

— Ён быў калекам, не даў рады сеяць і араць, таму зямлю аддаваў арандатарам, — адзначае дакладчыца. — Але хутка хадзіў, асабліва пільнаваў, каб мужыкі лесу не кралі...

У двары знаходзілася багатая бібліятэка. Станіслаў добра ведаў французскую мову, у асяроддзі лічыўся таленавітым аўтарам рэпартажаў і складальнікам вершаў. У сям'і праз усе пакаленні падтрымлівалі культ студзеньскага паўстання і польскай мовы. Дзеля апошняй справы дачок аддавалі на пенсію ў Варшаву (бо жанчыны захоўваюць мову).

— Станіслаў непасрэдна не прымаў удзелу ў паўстанні, але ёсць асновы каб меркаваць, што даваў грошы паўстанцам, — адзначыла Марыя Нагенць. — Меў таксама добрыя адносіны з сялянамі, пра што сведчыць адно здарэнне. Прыблізна дзесяць гадоў пасля паўстання ў двары з'явіўся вясковец Дзенчык і папярэдзіў Станіслава: „Збярыце ўсе паперы і чорныя сукні, я іх у сябе схаваю". Пасля ў двары сапраўды адбылася рэвізія, у выніку якой арыштавалі Станіслава. Там даказалі яму правіны і папярэдзілі, што можа страціць зямлю. Каб неяк жыць у новай рэчаіснасці, Станіслаў паабяцаў пасляць наймалодшых сыноў на вучобу ў кадэцкі корпус у Пецярбург. Адзін з іх стаў героем руска-японскай вайны, другі даслужыўся звання генерала...

Сям'я Замбжыцкіх страціла канчаткова Вязынь у 1945 годзе. З гэтага часу захаваўся інтрыгуючы здымак. На ім бачым Уладзіславу Луцэвіч (жонку Купалы), Рыгора Гладкага (селяніна, які з усімі сварыўся) і Юзафа Замбжыцкага (дзеда прафесар Марыі Нагенць). У фоне красуецца драўляны двор, які неўзабаве перавязуць у Новае Поле і адчыняць у ім школу. Найбольшы трывалы след па сям'і — літаратурная і публіцыстычная творчасць Станіслава Замбжыцкага — чакаюць усё свайго даследчыка. Частка вершаў, як адзначыла Марыя Нагенць, напісана на польска-беларускай мове. На канец сустрэчы прачытала яна аўдыторыі „Гутарку Сталюка". Апісаная там хатка Ігната чамусьці напамінала мне вобразам і духам дом, у якім нарадзіўся Янка Купала.

Сустрэчу, прысвечаную месцам Янкі Купалы, арганізавала Кафедра беларускай культуры 29 мая г.г. у рамках г.зв. Універсітэцкіх дзён навукі і мастацтва.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Засакрэчаны помнік даўніны (ч. 2)

*(працяг з 24 н-ра)*

Па дарозе ў Берасце быў Камянец. Ян Лясота: „Ia, Ian Lasota, jenerał jkmści woiewodztwa Brzeskiego, zeznawam tym moim relacyinym kwitem: iż ia, będąc wzięty i użyty od sławetnych, pana Bazylego Kaszuby, wojta Kamienieckiego, a pana Marcina Bocewicza burmistrza — rajcow, ławnikow wszystkiego magistratu, tak też i od wszystkiego pospolstwa miasta Kamienieckiego, w roku tysiąc sześćset sześćdziesiątym, miesiąca Maja dwudziestego wtorego dnia, maiąc przy sobie stronę, dwóch szlachciców, pana Iana Terpiłowskiego i pana Piotra Mościckiego, przy ktorych pomieniony magistrat i pospolstwo, podczas zawarcia xiąg grodzkich Brzeskich, mną jenerałem i stroną szlachtą, oświadczyli i okazywali straszną y wielką desolatią miasta Kamieńca przez nieprzyiaciela Moskwicina — Chowańskiego stałą, który z woyskiem swoim, w roku tysiąc sześćset sześćdziesiątym, miesiąca Ianuarij, siódmego dnia od Grodna szedł do Brześcia. A wprzód zapuścił czaty swoie przed sobą, którzy ogniem i mieczem pustoszyli i gubili miasta ikmści i wsi, tak też duchowne i panskie dwory gubili i palili, lud ścinali, mordowali; gdzie też i miasto Kamieniec napadszy, pozostałych ludzi ścinali, mordowali, miasto palili, a drugich, po puszczy, lasach naszedszy mordowali i zabiiali i niemało ludzi znacznych urzędowych tyrańsko na śmierć pomordowali, a inszych w niewolą pobrali. Które spalenie i spustoszenie miasta Kamieńca przez nieprzyiaciela Moskwicina ja jenerał z stroną szlachty mianowaney oglądawszy, po wszystkim mieyscu widziałem; wprzód: zamek ikmści wszystek spalony i Cerkiew Bożego Narodzenia i kościoł Świętego Ducha ze wszystkim spalono; dzwony po wszystkich cerkwiach i kościołach, tak też i apparata wszystkie pobrane i porabowane; ratusz pomienionego miasta Kamieńca z xięgami i sprawami, w komorze ratuszney będącemi, spalili; miasto samo Kamieniec i domy, mało nie wszystkie, folwarki, gumna — są spalone i spustoszone; bydło rożne, owce, kury, gęsi, świnie — pobrane i zniszczone; ludzi co nazwyczaynieyszych, w radzie będących, pozabiiali, a drugich w niewolę pobrano; skrzynkę mieyską z przywileiami, quitami poborowemi, donacyinemi, podymnemi i inszemi sprawami, dekretami y listami, miastu potrzebnemi, odkopawszy — spalili, a drugie pobrali; ludzi, którzy pozostali, widziałem popieczonych, posieczonych, w kurpiach, siermięgach, radnach chodzących: com ia widział y słyszał z stroną szlachty, zeznawam tę moią relacią, y daię z pieczęcią y podpisem ręki moiey y strony szlachty przy mnie będącey”.

Ян Цадроўскі: „R-u 1656 21 Marca. Dopuścił P. Bóg w Województwie Mińskiem na różnych miejscach i w moim domu straszną moc myszy polnych, tak że zboża wprzód w polach, a potem w pieniach i swirnach i przepłotach strasznie psowali i za którem dopuszczeniem Bożem zaraz głód straszny nastąpił, który trwał aż do żniw roku 1657 tak że kotki, psy zdechliny wszelakie, ludzie jadali, na ostatek rżnęli ludzi i ciała ludzkie jedli i umarłym trupom ludzkim wyleżeć się w grobie nie dali, czegom się sam mizerny człowiek oczyma mojemi napatrzał”.

Генадзь Сагановіч: „Катастрофа — інакш не назавеш стан, у які была ўвергнутая Беларусь трынаццацігадовай вайной. І самыя страшныя страты — гэта страты людскія. На Беларусі ў межах прыкладна яе сучаснай тэрыторыі колькасць насельніцтва зменшылася больш чым напалову: калі перад вайной яно дасягала 2 мільёнаў 900 тысячаў чалавек, дык на 1667 год засталося блізу 1 мільёна 350 тысячаў. Гэта прыкладна 47 працэнтаў. (...) Бадай не засталося на Беларусі і аніводнага больш-менш цэлага горада. Усе яны ляжалі ў попеле ды руінах”. Да гэтага ўсё ж такі трэба дадаць, што і ўласныя войскі ВКЛ не заўсёды паводзілі сябе карэктна.


Чыгуначная станцыя ў Сідры

Пасол аўстрыйскага імператара Аўгусцін Маерберг пісаў у 1662 годзе пра Вільню: „Москвитяне владели этим городом, скованным собственными цепями, жестоко угнетая его рабством даже до 3 декабря 1661 года. В бытность их в несчастном городе они столько совершили в нем убийств, насилий женщинам, грабежей, святотатств, разорений и пожаров, что если кто вздумал бы ныне искать Вильны в городе Вильне, тот найдет только плачевные следы одичалого неистовства в ее разрушении, пепле и развалинах. Сколько ни было зданий, священных или обыкновенных, выстроенных из елового леса, все это распалось в прах от огня, подложенного под них москвитянами. Каменные здания, из которых состоял весь нижний город, составляют теперь одни лишь закоптелые стены без кровель, остальное же все истреблено поджогами свирепого победителя. А что пощажено огнем, того не пропустило строптивое высокомерие обидчивого гостя. (...) Все эти здания либо разорены, либо сожжены, либо же умышленно пробиты и проломаны насквозь молотами и топорами и свидетельствуют, с какою дикою ненавистью исповедующие московскую веру преследуют христиан римско-католического исповедания”.


Школьны буданак у Бярвісе

Генадзь Сагановіч: „Вайна канчаткова і незваротна адкінула ў мінулае часы былой рэлігійнай талерантнасці, спрычыніўшыся да з'яўлення прынцыпова іншых умоваў існавання праваслаўнай царквы на абшарах Рэчы Паспалітай. (...) Ці магло быць інакш, калі гэтая вера ўсё больш атаясамлівалася з „маскоўскімі думкамі”? (...) З'явіліся пастановы, якія абмяжоўвалі правы „дэзунітаў”: у 1673 г. — пазбаўленне права ўваходзіць у шляхецкі стан, у 1676 г. — пазбаўленне прывілеяў праваслаўных брацтваў і забарона жыхарам праваслаўнага веравызнання выязджаць за мяжу, у 1699 г. праваслаўныя страцілі права займаць выбарныя магістрацкія пасады”.

Праваслаўным „памагла” Масква, а пратэстантам Швецыя. Ян Цадроўскі: „R-u 1682 d. 3 Aprilis w Piątek z namowy Lojolitów, alias OO. Jezuitów i rady ich, pozwolił JPan Pac Wojewoda Wileński Hetman W-i X-a Litt-o zdjąć Krzyż ze zboru Ewangelickiego na przedmieściu za Trocką bramą, za którym zdjęciem i przywodem Jezuitów, studenci gwałtownie z tumultem Miejskim nastąpiwszy, zburzyli i rozrzucili Zbór i domy w których Xięża Ewangeliccy mieszkali poburzyli; Xięgi popalili, Xięży którzy się pod truny ludzi umarłych przed strachem pochowali byli, powyciągali, pastwili się nad nimi. Dzieciątko niewinne w pieluszkach będące na ogień wrzucili, że ledwo je żywe wychwycono, ale potem umarło. Srebro zborowe i dzwony pobrali i apparaty Zborowe których nie mało było, wszystkie zabrali. Szpitalowi nic nie folgowano i Szpitalnym zacnym Białogłowom, rabowano co znaleziono i Szpital zburzono i mur wszystek koło Cmentarza zrujnowano, ciała umarłych z grobów dobywali, pastwili się sromotnie nad imi, palili, męszczyzny umarłe na białogłowy umarłe kładli, mówiąc *crescite et multiplicamini* (лац.: пладзіцеся і памнажайцеся, Быццё: 9,1 — А. В.). Od trupów tych które palono na cmentarzu straszliwy był smród po wszystkiem mieście: Poganie nad ciały Chrześcijańskiemi nigdy się tak nie pastwią, jako się tam pastwili. A przy nich był jakiś Jezuita incognito, zakrywszy twarz żeby go nie poznano, ale znać Pan Bóg i oddać nie omieszka za tak straszne pastwienie się autorom tej złości niechybne. Nazajutrz po zburzeniu zboru Jmść Pan Pac Wojewoda Wileński Hetman W-o X-a Litt-o, po którym tęskni Król Jmść i cała Rzeczplita zafrasowawszy się prawie nagle umarł”.

Згаданыя Міколам Гайдуком „могілкі” цяпер зарослыя амаль непрагляднай расліннасцю. І можа так я тое месца і патрактаваў бы, калі б не пазнака на мапе, што там нейкая школа. Заглянуў я тады ў той гушчар вакол стромкага пагорка. І сапраўды — хаваецца там двухпавярховы школьны будынак. Не абмінуў яго ўвагай і колішні ніўскі даследчык: „А ў новую прасторную і светлую школу, што высіцца якраз на пагорку „могілкі”, ходзіць усяго невялічкая жменька дзетак”. Цяпер то ўжо не толькі дзеткі туды не заглядаюць, бо здаецца, што і ўласнік павесіў адно шыльдачку, што палетак прыватны і ўваход пастаронніх туды забаронены. Сетачная агароджа шчыльная, а за ёю быццам прыродны запаведнік; аконныя праёмы ўжо без шкла і без створак. Мо і 350 гадоў таму так выглядалі некаторыя мясцовасці Вялікага Княства, мо на тых „могілках” і запакоілася мясцовая частка з паловы насельніцтва яго.

Ад запушчанага школьнага будынка ў Бярвісе палявая дарога вядзе ў гмінную Сідру. Сідра атрымала гарадское права ў 1566 годзе. У пачатку наступнага стагоддзя горад становіцца цэнтрам кальвінізму, узводзіцца там пратэстанцкі збор, які прастаяў да знясення ў 1880 годзе: зараз на яго месцы толькі зрэканструяваны падмурак. У пачатку XVIII стагоддзя новы ўласнік Сідры, католік Станіслаў Шчука хацеў збор замяніць у касцёл, але кальвіністы звярталіся за паратункам да прускага караля і ўласніку давялося паставіць новы касцёл, драўляны. Дарэчы, у той час міжканфесійныя суадносіны ў Сідры былі проста ўзорныя ў абставінах вонкавай міжканфесійнай напружанасці. У касцёле, напрыклад, правіў службы праваслаўны святар з Сідэркі, а ў Паўночную вайну пачатку XVIII ст. была там памешчана ікона Багародзіцы дзеля набажэнстваў з удзелам маскоўскіх ваякаў. Цяперашні, мураваны касцёл, быў узведзены ў 1783 годзе.



Гмінны партал Сідры апісвае навакольле як аазіс спакою і выгаднае месца для адпачынку на прыродзе. З цэнтра мястэчка захацеў я прайсціся ў напрамку чыгуначнай станцыі: спытаў я аднаго маладога чалавека пра дарогу. Ён мне паказаў дайсці вулачкай да „дэптака”, што ўздоўж рэчкі Сідэркі і па ім у патрэбным мне напрамку. І сапраўды — тратуар таго „дэптака” па набярэжнай слаба пратаптаны, нясмела зарастае травою. Не чуваць там ніякай штучнай акустыкі, адно радасны спеў птушак. А на чыгуначнай станцыі спыняюцца чатыры цягнікі ў суткі: два ў Сувалкі і два ў Беласток.

*ПАМЯЦЬ САГРАВАЕ ЧАЛАВЕКА ЗНУТРЫ, І Ў ТОЙ ЖА ЧАС ІРВЕ ЯГО НА ЧАСТКІ*

*Харукі Муракамі*

# Літаратурна-краязнаўчыя артыкулы і вершы Сяргея Чыгрына „Па слядах Купалы і Коласа”

**Інга ЯЦВЕЗЬ**

У сталічным выдавецтве „Кнігазбор” выйшла з друку чарговая кніга слонімскага пісьменніка, гісторыка і краязнаўцы Сяргея Чыгрына „Па слядах Купалы і Коласа”. Пра значэнне творчасці беларускіх класікаў гаварылася шмат і неаднаразова. Каласальная місія песняроў у тым, што яны стварылі выразную, прыгожую беларускую мову. Далі магутны штуршок усенароднай любові да роднага слова, да бацькоўскай мовы. Сказаць пра іх нешта новае, цікавае — адначасова і складана, і важна. Аўтар узяў на сябе такую адказнасць і ў яго, безумоўна, гэта атрымалася.

Зборнік складаецца з 11 невялікіх літаратурна-краязнаўчых артыкулаў, прасякнутых адной скразной думкай — знітаваць выбітныя постаці Янкі Купалы і Якуба Коласа са Слонімшчынай, з лёсамі незаслужана забытых, малавядомых, але таленавітых і шчырых беларусаў, якія моцна любілі Беларусь і беларускі народ. Кожны артыкул пачынаецца эпіграфам, якім сталі радкі з вершаў аўтара.

„Па слядах Купалы і Коласа” — гэта кніга-падарожжа ў часе і прасторы. Аўтар пачынае вандроўку з вёскі Вялікая Кракотка, што на Слонімшчыне, дзе беларуская моладзь сваімі намаганнямі заснавала беларускую бібліятэку-чытальню, якую назвалі імем Янкі Купалы. „Гэта была першая




ўстанова культуры рэспублікі, якой было нададзена імя песняра”, — зазначае аўтар.

Артыкул „Янка Купала і беларуская эміграцыя” — гэта ўжо падарожжа ў далёкае замежжа. „На чужыне беларусам ніколі не было лёгка. Беларусы заўсёды хацелі і хочуць жыць дома. І там, далёка ад роднай Бацькаўшчыны, многіх нашых суайчыннікаў ад настальгіі лячылі творы беларускіх песняроў — Янкі Купалы і Якуба Коласа...”.

Аўтарам згадваюцца і дзве паездкі Купалы і Коласа ў Беласток. Першая адбылася ў кастрычніку-лістападзе 1939 года. Другі раз паэты наведалі горад у кастрычніку 1940 года. 15 лістапада, па дарозе ў Менск, Янка Купала завітаў у Слонім у госці да беларускага паэта Гальяша Леўчыка.

Якуб Колас ніколі не быў на Слонімшчыне, але ягоная творчасць звязана з гэтым краем. Аўтар кнігі згадвае цікавы факт, што ў Слоніме на Цвінтарным завулку жыла спадарыня Ядвіся Бараноўская, якая стала прататыпам Ядвісі Баранкевіч з аповесці „У палескай глушы”. Напісаў яе Колас у 1923 годзе.

Спакушанага чытача цяжка здзівіць і зацікавіць. А яшчэ складаней зрабіць так, каб твор стаў патрэбным і актуальным зараз. Але аўтару ў чарговы раз гэта ўдаецца. У артыкуле „Якуб Колас і Слонімшчына” чытаем: „Не так цяжка было падрыхтаваць спектакль, як атрымаць дазвол на яго пастаноўку ў пана павятовага старасты. А часам і дазвол не вырашаў справы. Паліцыя знаходзіла безліч прычын, каб забараніць вечарыну. Адной з прычынаў забароны, напрыклад, магла быць адсутнасць пры ўваходзе ў гумно дзвюх бочак з вадой і мётлаў на ражнах. Іх наяўнасць, лічылася, гарантавала супрацьпажарную бяспеку...”. Аўтар піша пра падзеі 20-х — 30-х гадоў XX стагоддзя. Але хіба ж гэта не нагадвае сённяшнія недарэчныя забароны на права шанаваць родную мову, гісторыю, культуру, быць беларусамі ў сваёй краіне, а не нацменшасцю на акупаванай тэрыторыі? Супраць актывістаў у тыя часы, як і зараз, чыніліся рэпрэсіі. Іх арыштоўвалі, без суда і следства кідалі ў канцлагер Картуз-Бяроза.

З асаблівай цеплынёй аўтар згадвае свайго земляка, доктара філалагічных навук, прафесара Алега Лойку, якога асабіста ведаў і вельмі шанаваў. „Пра Купалу і Коласа ён мог распавядаць гадзінамі...”. Шмат цікавай інфармацыі, новых фактаў з асабітага жыцця песняроў, якімі падзяліўся Алег Лойка, прыводзіць аўтар у сваёй кнізе.

Сваім новым творам Сяргей Чыгрын працягвае здзяйсняць даўнюю мару — ён вяртае да жыцця вядомых у свой час, але незаслужана забытых беларусаў. У кнізе аўтар згадвае Міколу Арочку, Аляксандра Вазнясенскага, Гальяша Леўчыка, Алега Лойку, Міхася Петрыкевіча, Андрэя Пракапчука, Яўгена Хлябцэвіча, Уладыслава Чаржынскага ды іншых. Якія магутныя, цікавыя постаці!

Майстэрскае валоданне беларускім словам, вялікі досвед, шчырасць і яскравасць аўтара ў апісанні гістарычных постацей і падзей, робіць гэты твор прывабным і доўгачаканым для чытача. Новая кніга Сяргея Чыгрына безумоўна зацікавіць аматараў гісторыі роднага краю і, канешне, кожнага, хто шануе родную мову, культуру і мінулае Бацькаўшчыны.

Кніга выйшла накладам у 100 асобнікаў. Выданне таксама змяшчае рэдкія фотаздымкі.

Я, як і шматлікія прыхільнікі аўтара і аматары беларускай мінуўшчыны, з нецярпеннем чакаю выхаду ў свет новай кнігі Сяргея Чыгрына!




Час ад часу ўладальнікі сайтаў з невядомых інтэрнэт-карыстальнікам прычын прыходзяць да высновы, што варта змяніць не толькі выгляд свайго віртуальнага прадстаўніцтва, але і яго адрас. Ці робіць гэта сайт лепшым — не вядома, але сведчыць пра тое, што ўладальнікі такога сайта імкнуцца нейкім чынам яго мадэрнізаваць. Адным з прыкладаў такой мадэрнізацыі з'яўляюцца змены, якія адбыліся з сайтам Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ). Калісьці, а дакладней 24 кастрычніка 2004 года, „Ніва” пісала аб ім, указваючы на арыгінальны выгляд і разам з тым заўважаючы пэўныя недахопы.

Цяпер сітуацыя з сайтам цалкам змянілася. Пачынаючы ад адраса — быў **www.belaoc.com**, а стаў **www.belapc.org**, і канчаючы ягоным выглядам. На сайце цяпер няма багатага мастацкага аздаблення. На галоўнай старонцы мы ўбачым толькі вузкую палоску ўверсе, дзе змешчаны выявы крыжа Еўфрасінні Полацкай, Хрыста і Маці Божай, святых. Не надта добрай зменай можна назваць цяперашнюю адсутнасць назвы сайта — каб даведацца, што ён належыць БАПЦ, варта азнаёміцца са зместам матэрыялаў.

У адрозненні ад ранейшага сайта, цяперашні сайт Царквы падзяляецца на дзве часткі. Першая, левая змяшчае выйсці да іншых рубрык, а правая ўласна і нясе асноўную інфармацыю. Прыемна бачыць, што практычна кожнае паведамленне суправаджаецца фотаздымкамі. Гэта дае магчымасць пабачыць, як служаць царкоўныя службы ў Амерыцы, дзе збольшага і знаходзіцца БАПЦ. Дарэчы, парафіі БАПЦ ёсць і ў іншых краінах, у тым ліку і ў Беларусі. У Польшчы, праўда, іх няма — па меншай меры, такія не прадстаўленыя на сайце. Ну, а каб пазнаёміцца з тымі, што ёсць у наяўнасці, трэба зазірнуць на старонку „Парахвіі”.

Аб кіраўніцтве БАПЦ сказана ў рубрыцы „Япіскапат і Сьвятарства”. Адтуль мы можам даведацца, што кіруючым епіскапам з'яўляецца цяпер Святаслаў Логін, епіскап Наваградзкі і Паўночна-Амерыканскі.

Вартым увагі ўвацаркоўленай асобы падаецца старонка „Каляндар”. Там месяцца даты праваслаўных святаў і прысвятак на цэлы 2012 год і нават студзень 2013 года. Даты пазначаныя як па старым, так і па новым стылях. Таксама цікавай з'яўляецца старонка „Гісторыя”, асабліва яе падрубрыка „Значныя даты зь гісторыі Беларускае Праваслаўнае Царквы”, дзе можна пабачыць, як асэнсоўваюцца падзеі, што мелі месца ў мінулым Беларусі і датычныя праваслаўнага жыцця.

Каб даведацца пра тое, што цяпер вызначае правілы жыцця БАПЦ, трэба зазірнуць на старонку „Афіцыйныя дакументы”. Там апублікаваны Статут Царквы, дзе вельмі падрабязна апісваюцца ўсе яе структуры, а таксама гістарычныя падзеі. Асобным радком згадваецца ў ім беларуская мова: „Урадавая мова БАПЦ ёсьць беларуская, але ў вонкавых дачыненьнях, карыстаецца мова той краіны, у якой частка гэтае Царквы знаходзіцца”.

У рубрыцы „Імёны” мы знойдзем вялікі пералік імёнаў так ці інакш згаданых у беларускай царкве. Адметнасцю данай старонкі з'яўляюцца змешчаныя там сербскія праваслаўныя імёны.

Увогуле БАПЦ цяпер шмат увагі надае і іншым праваслаўным цэрквам у свеце. На старонцы „Іншыя цэрквы” месціцца іх вялікі пералік з выйсцямі на царкоўныя сайты.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## БЕЛАРУСІ Скарбы

### Дзярэчынскі тэатр

На Гарадзеншчыне апошняе дзесяцігоддзе ўлады паўсюль з тупой настойлівасцю выцінаюць і знішчаюць дрэвы. Асабліва цярпяць малыя гарады і мястэчкі, у якіх сучасныя герастраты робяць, па іх словах, „як у Еўропе”. Толькі ў еўрапейскіх краінах без абмеркавання з грамадскасцю ніхто і аднаго дрэва не высеча. А тут праязджаеш па нашых дарогах ды мястэчках і жаху даешся. А сапраўдная Еўропа тут некалі насамрэч была. Прыкладам мястэчка Дзярэчын на Зэльвеншчыне, якое Сапегі пераўтварылі ў культурна-тэатральны цэнтр.

Дзярэчын вядомы ў гістарычных крыніцах з XV ст. 25 чэрвеня 1660 г. пад мястэчкам адбылася бітва войска Рэчы Паспалітай з маскоўцамі. У XVIII ст. канцлер ВКЛ Аляксандр Міхал Сапега перанёс сюды з Ружаны родавую рэзідэнцыю, заснаваў тут палац і вайсковую навучальную ўстанову — „Акадэмію”. Так што сённяшніх навучэнцаў беларускіх вайсковых вучэльняў можна было бназываць „сапегаўцы”, а не „сувораўцы” ў гонар чужынскага акупанта. У дзярэчынскай акрузе пры гэтым Сапегу развіўся выраб алкагольных напояў, займаліся таксама гадоўляй коней, разводзілі англійскіх авечак і рыбу.

Апошні ўздым Дзярэчына звязаны з імем Францішка Сапегі. Гэта быў незвычайны чалавек — багацей і авантурнік, ваяр-паўстанец і гуляка. Ён быў паплечнікам Тадэвуша Касцюшкі, сябраваў з расейскім царом Паўлам I (прымаў і паіў яго якраз у Дзярэчыне) і „настаўляў рогі” самому Напалеону Банапарту, круцячы шашні з ягонай каханкай і акторкай Жазефінай. Не дзіва, што ў час вайны 1812 г. Францішак палічыў за лепшае быць у расійскай глыбінцы.

Пры Францішку Сапегу ў Дзярэчыне ладзіліся пышныя шыкоўныя балі, розныя забавы і розыгрышы. Прытым магнат збіраў сапраўдныя творы мастацтва, кнігі, іншыя каштоўнасці, шмат чаго прывозіў з Парыжа. Пра дзівацтвы і шырокі размах душы ўладальніка мястэчка падрабязна можна прачытаць у надзвычай цікавай кніжцы „Дзярэчынскі дыярыюш”, якую напісаў ураджэнец тутэйшай зямлі Міхась Скобла, а таксама ва ўспамінах Леана Патоцкага. Францішак Сапега жыў сапраўды паводле шэкспіраўскага выслоўя — „Што нам жыццё — гульня!”.

Дзярэчынскі тэатр быў асаблівым гонарам мясцовага ўладальніка. Магчыма, на яго стварэнне Сапегу натхніла тая ж Жазефіна. У дзярэчынскай трупе было ажно 60 чалавек, былі дзве спеўныя капэлы. Усё гэта развівалася ў антуражы шыкоўнага палаца з багатай карціннай галерэяй і бібліятэкай, вялікім садам, які называўся „малым Версалем”, звярынцам, у якім быў нават вярблюд. Дзярэчын мог параўноўвацца нават з радзівілаўскім Нясвіжам. Па некаторых звестках, тэатр існаваў у Дзярэчыне да 1795 года, а капэла — ажно да 1820 г.

Прадстаўнікі роду Сапегаў даўно пакінулі мястэчка. Праўда, у 1997 г. сюды наведваўся князь Яўстах Севярын Сапега, адзін з апошніх прадстаўнікоў роду, які жыў ажно ў Кеніі. У мясцовым касцёле Ушэсця была ўсталяваная мемарыяльная дошка. Дзярэчынскія скарбы былі разрабаваныя і вывезеныя пераважна ў Расію. З'ехалі адсюль і ўсе габрэі, якія доўга фармавалі рэгіянальную культуру. Сёння ў Дзярэчыне ціха, не шумяць нават дрэвы вакол цікавай архітэктурна (квадратнай у плане) царквы. Іх усе знішчылі. Нядаўна быў чарговы скандал — мясцовыя ўлады пілавалі дрэвы на габрэйскіх могілках, якія падалі і ламалі помнікі. Слава Дзярэчына, які магнат-вандроўнік Францішак Сапега цаніў на роўні Парыжа, засталася ў далёкай гісторыі і кніжках.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Асвячэнне „Орліка” ў Кляшчэлях

1 чэрвеня ў Кляшчэлях адбылося асвячэнне спартыўнага стадыёна „Орлік”. Нягледзячы на дажджлівае надвор’е, на пляцоўцы сабраўся шматлюдны натоўп вучняў, настаўнікаў і жыхароў мястэчка. У мерапрыемстве ўдзельнічалі член праўлення Падляшскага ваяводства Яцэк Пёрунэк, дарадчык ваяводы Славамір Андрышэўскі, старшыня Рады павета Мікалай Міхалюк, наменнік камандзіра пагранзаставы ў Чаромсе паручнік Славамір Раманюк, праваслаўныя святары а. Мікалай Келбашэўскі і а. Павел Нікіцюк, каталіцкі ксёндз Ян Красоўскі, радны павета Яраслаў Герасімюк, радныя Гарадской рады ў Кляшчэлях і госці з Гайнаўкі. Пасля цырыкоміі запальвання алімпійскага факела і выслухання дзяржаўнага гімна, святары адправілі супольны малебен і асвяцілі спортпляцоўку. Гонару перарэзаць бела-чырвоную стужку ўдастоіліся бурмістр Ірэна Негярэвіч, Яцэк Пёрунэк і Славамір Андрышэўскі.

Затым выступіла бурмістр Ірэна Негярэвіч. Прамоўца напомніла аб Дні спорту, які адзначаецца 1 чэрвеня. Расказала пра дасягненні юных спартсменаў з Вучнёўскага спартыўнага клуба „Ожэл”, прытым павіншавала дзетак з нагоды свята. У заканчэнні заявіла: „Здача ў карыстанне стадыёна „Орлік” з’яўляецца вялікай падзеяй не толькі ў жыцці школы, але і мястэчка. Мясцовы самаўрад не быў у змозе сам рашыць такую задачу. Заслуга ў гэтым Маршалкоўскай управы, якая не толькі падтрымала ўрадавы праект пабудовы пляцоўкі, але і дала фінансавую падтрымку. І за гэта ад нас шчырае дзякуй”.

У адказ член Маршалкоўскай управы Яцэк Пёрунэк канстатаваў: „У ваяводстве збудавана ўжо 272 спартыўныя пляцоўкі „Орлік”. У маштабе краіны працуе іх дзве з паловай тысячы. Кляшчэлі далучаюцца да гэтага ліку. Калі прыбавіць да таго чатыры нацыянальныя стадыёны, дык Польшча будзе лідарам у Еўропе ў пабудове спартыўных аб’ектаў. Кляшчэлі паклалі ў гэтую справу сваю цаглінку. Спадарыня бурмістр, — працягваў прамоўца, — дзякавала за фінансавую падтрымку. Я са свайго боку дзякую бурмістр за лабіраванне і вялікую ангажаванасць у пабудову „Орліка”. Прытым хачу дадаць, што будзем успамагаць чарговыя інвестыцыі — каналізацыю і пракладку водаправода. Жадаю дзеткам самых лепшых спартыўных дасягненняў на новай пляцоўцы. У падарунку перадаю камплект футбольных мячоў”.



Злева направа: Ірэна Негярэвіч, Яцэк Пёрунэк, а. Мікалай Келбашэўскі, кс. Ян Красоўскі; ззаду: старшыня Прадпрыемства камунальных паслуг Пётр Монах, Мікалай Міхалюк



Злева: Яцэк Пёрунэк, Ірэна Негярэвіч, Славамір Андрышэўскі

Чарговым прамоўцам быў дарадчык ваяводы Славамір Андрышэўскі, які зачытаў віншавальны ліст падляшскага ваяводы, у якім павіншаваў ён жыхароў Кляшчэляў з „Орлікам” і выказаў надзею, што такім чынам моладзі ствараецца магчымасць бяспечнага і прытым актыўнага праводжання свабоднага часу ды выяўлення не аднаго спартыўнага таленту.

Пасля выступленняў заслужаным спартсменам і трэнеру былі ўручаны прызы за дасягненні на спартыўнай ніве. Шмат весялосці выклікалі штрафныя ўдары па варотах. Першай удар выканала бурмістр Ірэна Негярэвіч, затым запрошаныя госці. У мастацкай частцы выступілі малечы з садка. Гімназісты выканалі пастаноўку „Папялушка” (на спартыўны лад). На канец адбыўся футбольны турнір. Надвор’е не паспрыяла мерапрыемству. Увесь час ішоў дождж. Нягледзячы на гэта, прысутныя „вытрымалі” да канца імпрэзы. Фінальнай часткай была гарачая каўбаска для публікі, а для запрошаных гасцей — супольны пачастунак.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Пакласці асфальтнае палатно

У мінулых гадах я некалькі разоў пісаў пра вуліцу ў вёсцы Бялкі Нарваўскай гміны. У гэтай вёсцы была хіба найгоршая вуліца ў цэлым Гайнаўскім павеце. Там быў такі ўхабісты брук, што нават д’ябал мог бы пакруціць сабе ногі. Легкавушкай страх было па ёй ехаць. Людзі хадзілі і ездзілі па тым бруку ды праклінալі ўлады, а найгорш жавалі вадзіцеляў грузавых машын, якія штодзень зімой і летам вывозілі лес.

Трэба адзначыць, што гэта павятовая дарога пабудаваная пры ПНР. Дарогу пачалі асфальтаваць на адрэзку ад шашы Нарва — Заблудаў да вёскі Рагазы-Іванкі і праз вёску паклалі асфальт. Тры гады асфальтавалі 4-кіламетровы адрэзак з Трасцянкі ў Бялкі. У мінулым годзе паклалі асфальт з вёскі Іванкі да вёскі Агароднікі і каля 100 м за вёскай у напрамку вёскі Бялкі.

Цяпер рабочыя Гайнаўскага павятовага праўлення дарог рыхтуюць вуліцу ў Бялках пад асфальтаванне і праўдападобна ў чэрвені пачнуць выліваць асфальт, але толькі праз вёску і каля 200 м за вёскай у напрамку Агароднікаў.

Пасля асфальтавання будзе можна пасядзець на лавачцы каля свае хаты і не будзе пылу ад праязджаючых машын. За гэта трэба падзякаваць павятовым і гмінным уладам ды папрасіць іх як найхутчэй дакончыць асфальтаванне 3,5 км дарогі з Бялок у Агароднікі.

Мікалай ЛУК’ЯНЮК

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — фразу Аляксандра Лукашэнкі.

1. злакавае збожжа, з якога, м.інш., варылі кісель = 26 _ 11 _ 12 _ 13 _;
2. дзесяты ў алфавіце злучнік = 28 _;
3. марка савецкага матацыкла = 16 _ 17 _;
4. селянін, герой першых твораў беларускіх класікаў = 21 _ 22 _ 23 _ 24 _ 25 _;
5. кашэчае слова = 27 _ 1 _ 9 _;
6. прыцягненне для адбывання вайсковай службы = 2 _ 3 _ 15 _ 20 _ 18 _ 19 _;
7. горад на захадзе Удмурціі = 10 _ 7 _ 8 _;
8. паслухмянае дзіця = 14 _ 4 _ 5 _ 6 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | 10 | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | 16 | | 17 | 18 | 19 |
| | | | | | | | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 20 нумара**

Рэактар, нюх, Барак, гара, цела, Абама, Нёман, перамога, бэра, матрос, дына.

Рашэнне: **Багацею характар непатрэбны**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 17.06 — 23.06

**(22.03. я— 20.04.)** Пастарайся залішне не пагружацца ў работу, хоць 19-23.06. будзеш дзейнічаць асабліва хутка і з поспехам. Можаш падумаць аб адпачынку. Твае фінансы ідуць у парадку. Спраўна сарганізуеш хатняе жыццё.

**(21.04. — 21.05.)** 19-23.06. адчуеш сябе як у небе; у каханні поўня шчасця. Хоць яшчэ будзе турбаваць цябе хісткасць у настроях. 17-18.06. можа табе трэба будзе адмовіцца ад некаторых планаў. На пачатку тыдня нікому не пазычай. Не купляй больш рэчаў.

**(22.05. — 22.06.)** Будзь асцярожны з бізнесовымі партнёрамі. 18-22.06. лад зорак можа адабраць табе сілу і матывіроўку; не дазволь, каб хтосьці знеахвоціў цябе і адвёў ад рэалізацыі планаў. У суботу сустрэнься з сябрамі.

**(23.06. — 23.07.)** 19-23.06. сустракайся службова, на важныя размовы, бізнес, падпісвай дамовы. З 21.06. актыўна праводзь час; добрая кандыцыя, але і апетыт (пільнуйся, каб не папраўіцца). Перапоўніць цябе жыццярадаснасць, будзеш самаўпэўнены і заваюеш сэрцы нават сваіх сапернікаў, пераканаеш усіх. Можаш вырашыць старыя спрэчкі.

**(24.07. — 23.08.)** З 22.06. (аж да 26.06.) давер сваёй інтуіцыі — падкажа табе найлепшыя рашэнні. На пачатку тыдня са здвоенай сілай займайся рабочымі справамі. У чацвер эмацыйнае сутрасенне пойдзе табе ў карысць.

**(24.08. — 23.09.)** Не мусіш ашчаджаць, але палова таго, што набудзеш, будзе непатрэбнай (асабліва не бярыся купляць нерухомасцей). 18-22.06. трэба будзе заняцца адкладзенымі справамі. У чацвер не задзірай нос. У суботу атрыманая інфармацыя прынясе табе творчы поспех.

**(24.09. — 23.10.)** Да 24.06. ты знакаміты аратар і медыятар. 19-23.06. з одумам падыдзеш да праблем у пары, таму лёгка ўсё вырашыш. У сераду не спрачайся са старэйшымі ад сябе па ўзросце, а ў чацвер не спадзявайся асаблівых працоўных падзвігаў. У пятніцу будзь вельмі асцярожны ў дарозе.

**(24.10. — 22.11.)** Тыдзень найлепшы з апошніх! Будзеш у цэнтры ўвагі. Поспех у справах, рост кар’еры. Будзеш у поўнай гармоніі з самім сабою і ўсім светам. 18-22.06. будзеш гожы і самаўпэўнены. Можаш заваяваць чыёсь сэрца. Свабодныя Скарпіёны могуць здабыць аб’ект сапраўды найцяжэйшы для заваёвы! З фінансавымі справамі лепш не спраўляйся адзін.

**(23.11. — 22.12.)** Будзь уважлівым для акружаючых цябе людзей. У чацвер магчымыя спрэчкі ў сям’і. Субота прынясе ўдачу. Калі марыш пра павышэнне — яно як рукой падаць, таму дзейнічай — пераможаш моцных сапернікаў, не дзяры нос аднак перад імі.

**(23.12. — 20.01.)** Паправіцца твая працаздольнасць. У чацвер дзіўныя сітуацыі прымусяць цябе глянуць на жыццё іншымі вачыма. 18-22.06. будзеш скрытны (не адмаўляйся ад прапановы дапамогі!); могуць пагоршыцца твае адносіны з кіраўніцтвам і партнёрам. У нядзелю наведай бацькоў.

**(21.01. — 19.02.)** 19-23.06. зоркі прынясуць табе шчасце ў каханні. Ад пастаяннага партнёра чакай цудоўнага сюрпрызу. Інтэнсіўнае пачуццёвае жыццё зойме табе найбольш часу. Аж да 26.06. можаш хораша і трывала пахудзець. Праявi асцярожнасць у выбары сродкаў і шляхоў для рэалізацыі сваіх задум.

**(20.02. — 21.03.)** Лёгка можаш знайсці аб’ект сваіх пачуццяў, а партнёр гатовы прыхіліць табе неба. З 22.06. (да 26.06.) можаш захапіць атачэнне. У аўторак лёс можа ўцешыць цябе грашовым прыбыткам. У чацвер добра табе зробіць, калі пасядзіш сам у цішыні. Субота будзе ўдалай для пакупак.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Наменнік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Мірыслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Свята на Плянтах



Нават сонца 3 чэрвеня пачало вызіраць з-за хмар, калі пачыналася сёлетняе Свята беларускай культуры ў беластоцкім парку Плянты. Больш за дваццаць калектываў, дуэтаў ці індывідуальных спевакоў з Беласточчыны і дзіцячы ансамбль песні і танца „Цернічка” з Мінска рэкамендаваліся ў разнастайным у музычным плане беларускім рэпертуары. Сёлета госцем свята быў мінскі ансамбль „Бясeда”, якім кіруе прызнаны кампазітар Леанід Захлеўны. Згодна традыцыі, свята пачалося з выслухання тлумам гледачоў песні „Мой Беластоцкі край” на словы Алеся Барскага, а кончылася супольна спетай усімі калектывамі песняй „Люблю наш край”.

Гледачы і слухачы, з якімі мы размаўлялі, былі згодны:

— Чуем тут мілыя песні і пануе мілая атмасфера.

Ужо традыцыйна ў час свята можна было наведаць ларкі з вырабамі мастацкага рамёства. Тут за сталамі сядзелі мастакі-рукадзельнікі з Беласточчыны (з Гарадка, Плянты, Крывятыч і Орлі) і з Гродна. Адным з іх была Таццяна Пярвухіна:

— Прыехала нас сямёра майстроў з Народнага аб’яднання „Гродзенскі каларыт”. Паказваем свае вырабы з гліны, керамікі, скуры. Ёсць з намі і жывапісец. Прыехалі мы на свята беларуска-польскага сяброўства не першы раз. Заўжды з вялікай радасцю адказваем на запрашэнне пані Валянціны (Валянціна Ласкевіч — сакратар Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства — М. Х.). Трэба бываць адны ў адных, каб больш ведаць пра сябе ўзаемна.

У сваю чаргу за сталамі з беларускай літаратурай можна было сустрэць м.інш. Яна Забродкага з багатым выбарам кніг, аўтараў Яна Чыквіна, Міхася Хмялеўскага, Віктара Шведа, Галіну Тварановіч, Анатоля Парэмбскага. Бачылася вялікае зацікаўленне кнігамі Віктара Шведа, як для дарослых, так і для дзяцей. Адна з наведваючых гэты стэнд, пані Наталля, сказала „Ніве”:

— Я жыву ў Кляосіне, а мае бацькі — у Сувалках. Я куплю кнігі Віктара Шведа майму тату, бо ён пачуваецца да беларускіх каранёў і прасіў мяне, каб я купіла яму нейкія кнігі на беларускай мове. Тата родам з Саколкі і вельмі ганарыцца сваімі беларускімі каранямі.

Адным з калектываў, які паказаўся на сцэне, была вакальная група, якая дзейнічае ў Вясковым доме культуры ў Рыбалах.

— У нашага гурту няма яшчэ назвы. Першы раз сабраліся мы і заспявалі на дажынках. Няват няблага нам атрымалася. І так засталося да сёння. Песень шукаем на дысках. Фанаграму робіць нам знаёмы, — распавяла нам адна з сябровак калектыву.

Яго кіраўнік і ад пачатку існавання дырэктарка Вясковага дома культуры ў Рыбалах Лідзія Мартынюк адзначыла:

— Усё, што робім у нашым доме — па-беларуску. Першым калектывам былі „Хлопцы-рыбалоўцы”, што выконвалі песні, спяваныя ў нашай вёсцы дзядамі і прадзедамі. Ад пяці гадоў гэты калектыў ужо не спявае. Спявалі ў ім найстарэйшыя нашы вяскоўцы. На жаль, ужо яны адышлі. У цяперашнім калектыве спяваюць дзяўчаты.



Літаратары з Беласточчыны



„Сямейнае трыо” з Макаўкі

Дырэктарка запэўнівала:

— Нашай беларускай мовы, мовы нашых вёсак не пакінем. Мусім навучаць яе нашых дзяцей. У нас ёсць дзеці, якім толькі два з паловай годзіка і якія дэкламуюць ужо вершыкі па-беларуску і пачынаюць спяваць па-беларуску.

Іншы гурт, які прэзентаваўся ў час свята, гэта „Сямейнае трыо” — тройка дзяўчат з Макаўкі. Яго лідаркай з’яўляецца журналістка меншаснай (беларускай) рэдакцыі Радыё Беласток, матушка Анна Пятроўская:

— Наш калектыў гэта тры родныя сёстры, апроч мяне — Уршуля і Юстына. Спяваем беларускі, крыху апрацаваны фальклор. Калі ёсць такое свята беларускай культуры, дык павінен быць і беларускі фальклор, а не толькі „ум-па, ум-па”. Мы падрыхтавалі такія песні, якія спявалі нашы бабулі, наша мама. Шмат навучыла нас бабуля з боку мамы, родам з Плянтаў каля Новай Волі, што выхоўвалася ў сірочым доме і там пазнаёмілася са шмат якімі песнямі і перадала іх нашай маме, а мама — нам. Спяваем іх а капэла такім звычайным голасам, не белым. Цяжка сказаць, калі мы ўзніклі як калектыў, бо, як памятаю, заўжды спатыкаліся мы ў хаце і спявалі пры розных нагодах.

Яшчэ да пачатку канцэрта Ян Сычэўскі, старшыня ГП БГКТ (таварыства ад самага пачатку з’яўляецца арганізатарам мерапрыемства) прамаўляў:

— Патрэба гэтага свята — вялізная. Існуе беларуская культура ў Польшчы, дзейнічаюць беларускія аматарскія калектывы — іх больш за шэсцьдзесят. Выдатнае супрацоўніцтва ў нас з Рэспублікай Беларусь.

Старшыня зачытаў ліст ад міністра культуры Рэспублікі Беларусь Паўла Латушкі. Міністр напісаў у ім м.інш.: „Гэта сапраўднае свята тых, хто ўшаноўвае нашу агульную духоўную спадчыну і ўзбагачае нацыянальную культуру”.



ISSN 0546-1960